Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



## № 21

ЖНІВЕНЬ 1934 Г.

МЕНСК — 1934

# I. Афіцыйны аддзел.



## Пастанова № 1370

### Совета Народных Камісараў БССР

**21 жніўня 1934 г.** **гор. Менск.**

Аб узмацненні раённых і гарадскіх органаў народна-гаспадарчага учота і утварэнні участковай інспэктуры народна-гаспадарчага учота.

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР „Аб узмацненні раённых і гарадскіх органаў народна-гаспадарчага учота і утварэнні участковай інспэктуры народна-гаспадарчага учота“ (газ. „Известия ЦИК СССР“ № 182 ад 6/VIII-1934 г.), Совет Народных Камісараў БССР п а с т а н а ў л я е:

1. Устаноўленыя для БССР 210 пасад участковых інспэктароў у сельскіх мясцовасцях размеркаваць наступным чынам:

1. Асвея . . . . . . . 2
2. Асіпавічы . . . . . 2
3. Бабруйск . . . . . 4
4. Барысаў . . . . . . 4
5. Бягомль . . . . . . 2
6. Брагін . . . . . . . 2
7. Быхаў . . . . . . 4
8. Бялынічы . . . . . 3
9. Бярэзіно . . . . . . 3
10. Буда-Кашэлева . . 2
11. Бешанковічы . . . 3
12. Віцебск . . . . . . 3
13. Ушачы . . . . . . 3
14. Ветка . . . . . . . 4
15. Глуск . . . . . . . 3
16. Горкі . . . . . . . 3
17. Гарадок . . . . . . 4
18. Гомель . . . . . . 3
19. Дзяржынск . . . . 3
20. Дрыса . . . . . . . 2
21. Дуброўна . . . . . 3
22. Ельск . . . . . . . 2
23. Жыткавічы . . . . 1
24. Жлобін . . . . . . 3
25. Заслаўль . . . . . . 2
26. Касцюковічы . . . . 5
27. Камарын . . . . . . 2
28. Крупкі . . . . . . 3
29. Клімавічы . . . . . 3
30. Клічаў . . . . . . . 3
31. Крычаў . . . . . . 2
32. Карма . . . . . . . 3
33. Краснаполле . . . 3
34. Копыль . . . . . . 3
35. Лепель . . . . . . 3
36. Любань . . . . . . 2
37. Лоеў . . . . . . . 2
38. Лагойск . . . . . 2
39. Лельчыцы . . . . . 2
40. Лезна . . . . . . . 4
41. Менск . . . . . . . 3
42. Мозыр . . . . . . 4
43. Мсціслаўль . . . . 3
44. Магілёў . . . . . . 4
45. Нароўля . . . . . 4
46. Орша . . . . . . . 4

47. Прапойск . . . . . 2
48. Парычы . . . . . . 3
49. Полацк . . . . . . 4
50. Пухавічы . . . . . 3
51. Плешчаніцы . . . . 2
52. Петрыкаў . . . . . 3
53. Рагачоў . . . . . . 3
54. Расоны . . . . . . 3
55. Рэчыца . . . . . . 4
56. Сіроціна . . . . . 3
57. Смалявічы . . . . . 2
58. Сураж . . . . . . 3
59. Ст. Дарогі . . . . . 2
60. Старобін . . . . . 2
61. Слуцк . . . . . . . 3
62. Сенно . . . . . . . 3
63. Талачын . . . . . . 3
64. Тураў . . . . . . . 1
65. Уваравічы . . . . . 3
66. Узда . . . . . . . 2
67. Хойнікі . . . . . . 3
68. Церахаўка . . . . . 3
69. Чэрыкаў . . . . . . 2
70. Чаусы . . . . . . . 3
71. Чэрвень . . . . . . 2
72. Чачэрск . . . . . . 3
73. Ч. Слабада . . . . . 2
74. Чашнікі . . . . . . 2
75. Шклоў . . . . . . . 3

2. Абавязаць Кіраўніцтва народна-гаспадарчага учота БССР, раённыя выканаўчыя камітэты і гарадскія советы укамплектаваць усе пасады участковых інспэктароў палітычна праверанымі і кваліфікаванымі работнікамі да 1-га лістапада 1934 г.

3. Абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты і гарадскія советы даваць раённым і гарадскім органам народна-гаспадарчага учота добра ўпарадкаваныя памяшканні для работы з аднясеннем іх аплаты, а таксама выдаткаў па гаспадарчаму абслугоўванню (уборка, атапленне, асвятленне і карыстанне тэлефонам) за рахунак раённага і гарадскога бюджэтаў.

4. Абавязаць сельскія советы тых паселішчаў, у якіх знаходзяцца участковыя інспэктары народна-гаспадарчага учота, даваць ім безплатна памяшканне для заняткаў з гаспадарчым абслугоўваннем (уборка, асвятленне, атапленне, карыстанне тэлефонам).

5. Абавязаць кіраўніцтва народна-гаспадарчага учота арганізаваць у бягучым годзе кароткатэрміновыя курсы для падрыхтоўкі участковых інспэктароў.

6. Прыраўняць участковых інспэктароў народна-гаспадарчага учота у адносіне жыллевых і іншых льгот да спецыялістаў, працуючых у сельскіх мясцовасцях (аграномаў, урачоў, і г д), а у адносіне норм і парадка снабжэння— прыраўняць іх да настаўнікаў сельскіх школ.

7. Прыраўняць раённых і гарадскіх інспэктароў народна-гаспадарчага учота па заработнай плаце і снабжэнню адпаведна да загадчыкаў аддзелаў раённых выканаўчых камітэтаў і гарадскіх советаў.

Старшыня Совета Народных
Камісараў БССР *М. Галадзед.*

Нам. Кіраўніка Спраў Совета
Народных Камісараў БССР *І. Пятровіч.*

# Загад № 189.

## па Цэнтральнаму Кіраўніцтву Наргасучота Дзяржплана СССР.

**г. Масква** **ад 3 ліпеня 1934 г.**

Пленум Центральнага Камітэта ВКП(б) (29/VI-1/VII-1934 г.) патрабаваў сапраўднага павароту усіх партыйных, савецкіх і гаспадарчых арганізацый да справы каранога палепшання становішча жывёлагадоўлі.

Прызнаючы нездавальняючымі якасць і тэмпы будаўніцтва ў саўгасах, у асаблівасці жылбудаўніцтва,—пленум ЦК разам з тым падкрэсліў выключную важнасць осені гэтага года для калгаснага будаўніцтва, для пад'ёма справы жывёлагадоўлі і, у першую чаргу, для захавання маладняка і добрага правядзення зімоўкі.

У сувязі з гэтым Пленум ЦК даў рад практычных указанняў для разгортвання будаўніцтва ў соўгасах і калгасах.

У мэтах забеспячэння своечасовых сігналізацыі і апаратыўнага назірання за выкананнем дырэктыў Пленума ЦК ВКП(б) па лініі учота будаўніцтва ў соўгасах і калгасах з боку усіх органаў ЦУНХУ,—загадваю:

1. Начальнікам абл. (край) і рэспубліканскіх УНХУ прыняць усе залежачыя меры к своечасоваму поўнаму ахопу бягучай рэгістрацыяй у Райінспектурах пачатку і сканчэння будаўніцтва паасобных пабудоў у соўгасах і калгасах.

2. Райінспектарам звярнуць асаблівуюўвагу на неабходнасць запаўнення картак рэгістрацыі данными аб колькасці галоў жывёлы, забяспечваемай памяшканнем.

3. Сектару ўчота капітальных работ і будаўніцтва ЦУНХУ прадставіць мне к 15/IX і к 1/XII—34 г., а таксама к 15/I--35 г. Саюзныя зводкі аб ходзе будаўніцтва соўгасаў і калгасаў за першае паўгоддзе, 9 месяцаў і 11 месяцаў, па абласцям, забяспечыўшы ведамственны разрэз і натуральные паказчыкі па будаўніцтву важнейшых відаў жывёлагадоўчых пабудоў.

4. Начальнікам УНХУ к 1/VIII пісьмова інфарміраваць мяне аб прынятых імі канкрэтных мерах у развіццё данага загада.

5. Сэктару Учота капітальных работ і будаўніцтва ЦУНХУ прадставіць мне к 15/VIII зводны даклад аб ходзе бягучай рэгістрацыі у соўгасах і калгасах.

Нам. Нач. ЦУНХУ Дзяржплана СССР *Краваль.*

---

# Загад № 258

## па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР

**г. Менск.** **27/VII-1934 г.**

Рэгістрацыя будаўніцтва інспэктурамі наргасучота, неглედзячы на шэраг папярэджанняў, праводзілася да гэтага часа зусім нездавальняюча. Ёсць яшчэ некалькі інспэктур, незаканчыўшых цалкам рэгістрацыі скончанага у 1933 г і перахадзячага на 1934 г. будаўніцтва, як напрыклад: Нараўлянскі інспэктар т. Селезнёў, Бярэзінскі інспэктар т. Перэдня, Сіроцінскі інспэктар т. Садоўскі, Дубровенскі інспэктар т. Жукаў, Рагачоўскі інспэктар т. Пташкоўскі і інш.

Тая увага, якая удзеляецца ў сучасны момант партыей і урадам пытанням жывёлагадоўлі і разгортванню будаўніцтва ў саўгасах і калгасах,—ставіць перад органамі Наргасучота зусім па новаму задачу перабудовы работы у раёнах па рэгістрацыі будаўніцтва.

Дасылаемы пры гэтым загад па ЦУНХУ СССР за № 189 ад 3/VII б. г. за подпісам тав. Краваля і канкрэтныя дырэктыўныя указанні сэктара капітальнага будауніцтва ЦУНХУ СССР ад 19/VII-34 г. павінны стаць асновай для перабудовы работы па будаўніцтву у райінспэктурах.

Папярэджваю аб безагаворачным выкананні указаных дырэктыў ЦУНХУ і своечасовай дасылцы штомесячных зводак аб ходзе будаўніцтва па саўгасам і калгасам не пазней 10-га чысла наступнага за справаздачным месяца. Зводка за ліпень павінна быць прадстаўлена не пазней 10-га жніўня.

Разам з гэтым абавязваю усіх інспэктароў асабіста правесці абследванне на месцы 3—5 калгасаў і саўгасаў, праводзячых буйнейшае жывёлагадоўчае будаўніцтва і даслаць мне падрабязны аналіз хода будаўніцтва у гэтых калгасах і саўгасах з указаннем спрыяючых і перашкаджаючых прычын і выканання імі правіл рэгістрацыі будаўніцтва.

Лічу, што кожны інспэктар Наргасучота адну пяцідзёнку у м-ц, з 1 па 5 чысло, павінен пасвяшчаць пераважна пытанню рэгістрацыі будаўніцтва. Гэта, безумоўна не значыць, што у гэт[illegible] зусім не павінен займацца другімі справамі, альбо у другі час не займацца пытаннямі будаўніцтва. Толькі пры такой канцэнтрацыі увагі інспэктуры да гэтага, дасюль запушчанага участка работы, наша сістэма зможа выпаўніць пастаўленыя партыей і урадам задачы.

Інспэктара Наргасучота Нараўлянскага раёна т. Селезнева, як недаацэніўшага палітычнай важнасці - гэтай работы і не забяспечыўшага сваечасовага яе выканання, з работы зняць. Інспэктару Наргасучота Бярэзінскага раёна т. Перэдня абвясціць суровую вымову з папярэджаннем.

Папярэджваю усіх астатніх інспэктароў, што у выпадку неперабудовы работы да іх будуць прыняты больш суровыя меры.

Прапаную усім райінспэктарам з першай зводкай за ліпень прадставіць мне падрабязную інфармацыю аб ходзе рэгістрацыі па свайму раёну, аб прынятых мерах для палепшэння гэтай работы, а таксама даслаць матар'ял па абследванню не менш 2-х калгасаў альбо саўгасаў.

Сэктару прамысловасці штомесячна, не пазней 13-га чысла, дакладваць аб ходзе работы па інспэктурам аб рэгістрацыі будаўніцтва.

Нач. Кір. Нар. Гасп. Учота БССР *Владзімірскі.*

---

## Усім Облатсным, краевым і рэспубліканскім Нач. КНГУ

ЦУНХУ Дзяржплана СССР дасылае Вам да ведама і кіраўніцтва устаў Усесаюзнага т-ва соцыялістычнага учота (ВОСУ) пры ВЦСПС, зацверджаны Сакратарыятам ВЦСПС па згодзе з ЦУНХУ і прадстаўлены на зацверджанне СНК СССР, а таксама пратакол паседжання пры Нам. Нач. ЦУНХУ аб масавай рабоце.

Адначасова ЦУНХУ звярачвае Вашу увагу не маючы месца адмоўны факт, што да гэтага часу большасцю КНГУ не прымаецца ніякіх мер да належнага замацавання адпаведных мясцовых арганізацый ВОСУ і скарыстання іх для дапамогі і палепшання работы у сістэме Наргасучота, а таксама работнікі Наргасучота, як правіла, да гэтага часе прымалі ніякага удзелу у рабоце т-ва. Асобныя Начальнікі КНГУ праявілі неразуменне сэнса і задач арганізацыі ВОСУ. Так, напрыклад Нач. КНГУ Азова-Чорнаморскага края т. Осіпаў, стаўшы на чале краявой арганізацыі ВОСУ развaліў яе работу; замест таго каб дабіцца прывідловай увязкі работы учебных курсаў ВОСУ і Саюзоргучота ў мэтах развіцця іх работы ва ўмовах, калі задача падвышэння кваліфікацыі і падрыхтоўкі новых учотна-статыстычных кадраў у краю вырашаецца далека не ў поўнай меры. т. Осіпаў праявіў тэндэнцыю да згортвання работы курсаў ВОСУ, недаацэніваючы ролі і задач т-ва ў гэтай справе. Начальнік КНГУ Горкаўскага края, даўшы сваю згоду на

із'яціе крайбюро ВОСУ з ведама КСПС і прыняццe яго у ведама КНГУ абярнуў сталы апарат гэтага бюро у дадатак апарата КНГУ і па сутнасці не вёў ніякай работы па лініі ВОСУ.

Указавая на недапушчальнасць падобнага рода фактаў і на неабходнасць прыняцця належных мер да умацавання важнейшай для сістэмы Наргасучота грамадскай арганізацыі ВОСУ і разгортвання яе работы, КНГУ прапануе:

1. На падставе паказаных вышэй матэрыялаў і палажэнняў аб аддзелах ВОСУ, распрацаваць выходзячы з мясцовых умоў канкрэтныя мерапрыемствы да ўмацавання работы ВОСУ і да скарыстання яго работы для умацавання работы сістэмы Наргасучота.

У тых мейсцах, дзе яшчэ не арганізаваны аддзелы ВОСУ, прыняць энэргічныя меры да іх арганізацыі.

2. Устанавіць сталую сістэматычную сувязь з адпаведнымі аддзяленнямі т-ва шляхам уключэння у склад яго бюро адказнага прадстаўніка КНГУ (Нач. КНГУ, альбо яго Намесніка) і прыняцця актыўнага ўдзелу у яго рабоце усіх работнікаў апарата КНГУ; з гэтай мэтай дадаваемыя дырэктыўныя матар'ялы па т-ву прапрацаваць на шырокіх вытворчых нарадах работнікаў апарата КНГУ з прыцягненем там, дзе маюцца арганізацыі т-ва работнікаў і актывістаў адпаведных аддзелаў ВОСУ, і распрацаваць адпаведныя мерапрыемствы у гэтай галіне.

3. Даць аналегічные указанні райінспэктарам аб прыняцці імі патрэбных мер да арганізацыі і умацавання райаддзелаў ВОСУ пры Райсовпрофах. шляхам актыўнага іх удзела у рабоце апошніх, весці сістэматычны нагляд і перыядычныя праверкі іх работы у гэтым напрамку.

Нам. Нач. ЦКНГУ і Старшыня
ЦБ ВОСУ пры ВЦСПС *Краваль.*

---

# Загад № 298

## па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР

**ад 8/VIII-1934 г.**

Негледзячы на неаднаразовыя указанні адносна складання спіса біблятэк ф. 0-1 да прадстаячай перапісі бібліатэк, тав. Сініцын з Клімавіцкай інспэктуры Наргасучота гэтага задання не выканаў і прыслаў амаль што незапоўнены бланк, за што аб'явіць т. Сініцыну суровую вымову з папярэджаннем.

Нам. Нач. Кір. Нар.-Гасп. Учота БССР *Кацнельсон.*

# Загад № 305

## па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР

**ад 9/VIII-34 г.**

За не прадстаўленне папярэдніх даных па перапісу тэхнічнага абарудавання у лекавых установах (ф № 1) і аб'еднанага спісу бібліатэк, інспэктарам Жлобінскага раёну т. Лісу і Нараўлянскага р. тав. Селезневу абвясціць суровую вымову і папярэдзіць, што у выпадку паўтарэння гэтакіх да выканання заданняў кіраўніцтва яны будуць прыцягнуты да судовай адказнасці.

Інспэктарам не прадставіўшым да гэтага часу вышэйадзначанага матр'ялу прапаную безадкладна выслаць.

Нам. Нач. Кір Наргасучота БССР *Кацнельсон.*

---

# Загад

## Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР

**ад 9/VIII-1934 г.**

§ 1.

Інспэктар раёнай інспэктуры НГУ Старобінскага раёна т. Міхасёў Б. Ю. не гледзячы на талеграфные распараджэнні ЦК КП(б)Б і СНК БССР, мае і Наркамфіна БССР тав. Хацкевіча, а таксама пісмовыя указанні Сельгасп. сэктара—паўторнай кантрольнай праверкі учота жывёлы, пасля масавай праверкі органаў Райфо, не правёў, чым сарваў дасканалае устанаўленне пагалоўя жывёлы. Загадваю: за сабатаж дырэктыў партыйных і урадавых органоў па ажыццяўленню дасканалага учота пагалоўя жывёлы т. Міхасёва Б. Ю. аддаць пад суд. Прасіць Пракурора рэспублікі тав. Кузміна справу аб т. Міхасёве разглядзець у паказальным парадку.

§ 2.

Работнік Бягомльскай інспэктуры НГУ тав. Герасіменак і работнік Райфо за сумеснымі подпісамі даслалі с/г. сэктару КНГУ неправераныя памылковыя матар'ялы аб колькасці жывёлы у раёне. За бездзейнасць пры правядзенні і афармленні матар'ялаў учота жывёлы тав. Герасіменак абвяшчаю суровую вымову і папярэджваю, што пры паўтарэнні дасылкі памылковых матар'ялаў ён будзе ад-

дан пад суд. Справу аб заг. Бягомльскім Райфо перадаць на разгляд Наркамфіну БССР тав. Хацкевічу.

§ 3.

У сувязі з вялікім укрыццем жывёлы у Брагінскім раёне, згодна праведзеных інспэктурай НГУ кантрольных абходаў: па свіннях у аднаасобнікаў 50,4% і па калгасніках 19,3%; па авечках-аднаасобнікі 20,0%і калгасніці 6,0%,— камандыраваць у Брагінскі раён для высвятлення справы на месцы інспектара учотнай інспэкцыі КНГУ тав. Буйко. тав.Буйко выехаць у раён 9-га жніўня і тэлеграфна далажыць мне аб становішчы і якасці праведзянага учота, а таксама віноўніка зрыва учота. Справу аб інспэктары НГУ тав. Белахвосціку вырашыць па прадстаўленні мне даклада тав. Буйко.

§ 4.

Нач. Сэктара Учота с/г. тав. Арцямкову прадставіць мне дадатковы спіс інспэктароў НГУ, прадставіўшых недобраякасныя, памылковыя матар'ялы для, прыцягнення вінаватых да адказнасці.

Нач. Кір. Наргасучота БССР *Владзімірскі.*

---

# Загад

## Начальніка Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР

**ад 11/VIII-1934 г.**

Асабістай праверкай работы па вымярэнню ураджаю льну у калгасе „Пралетарый" Ушачскага раёна, Ушацкага с/с вытвараемага на падставе пастаноў СНК СССР ад 25/V-34 г. за № 1256 і СНК БССР ад 23/VII-34 г. (пратакола п. 9) установлена наступнае, што снапы пры адбору іх у полі механічна не адбіраліс і не было сталага учота і запісі снапоў ні у полі і ні пры адбору у час абіўкі галовак. Снапы атабранага льну хаваюцца пад адчыненым небам і скіданы разам з усімі звезеным льном без усякага догляду. Гэтакае становішча хавання зусім не забяспечвае сапраўдную цэласць снапоў і ўся праца траціць свой сэнс і вынікі яе накіраваны на прамое ашуканства дзяржавы у напрамку сапраўднага апрадзялення ураджаю льна.

Загадваю: Упаўнаважанага па вымярэнню ўраджаю льну у калгасе „Пралетарый“ т. Клабукова Васіля Антраповіча ад працы адхіліць і справу аб ім перадаць райпракурору для працягнення да судовай адказнасці.

Інспэктару НГУ т. Сівагракy прапаную забяспечыць вылучэнне новага упаўнаважанага, якому правесці работу па вымярэнню ураджаю льна у калгасе „Пралетарый“ на астаўшыхся участках, захоўвывая пры гэтым устаноўленыя Урадам БССР тэрміны.

Адзначаю, што т. Сівагрaк не забяспечыў у час працы асабістага кантроля за правядзенным вымярэннем ураджаю льну, што спрыяла зрыву гэтай работы у самым пачатку—прапаную у далейшым устанавіць асабісты самы суровы кантроль за правядзеннем гэтай працы.

Нач. Кір. Нар. Гасп. Учота БССР *Владзімірскі.*

---

# Загад

## Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР

**ад 15 жніўня 1934 г.**

Асабістай праверкай пастаноўкі работы па аб'ектыўнаму вымярэнню ураджаю ільну у Талачынскім раёне мною выяўлена наступнае:

1. У калгасе „Перамога“, ня гледзячы на неаднаразовыя папярэджанні, з боку упаўнаважаных па вымярэнню ільну т. т. Котава і Важніка,—брыгадзіру калгаса т. Мікульчыку Ф. аб тым, каб пры перавозцы ільну з поля, атабраныя снапы для вымярэння у колькасці 28 штук (адстаўленыя асобна) не забіраліся, снапы гэтыя былі названым брыгадзірам наўмысля звезены у гумно і змешаны з усім выцерабленым ільном у мэтах сакрыцця сапраўднага ураджаю ільну у данным калгасе;

2. У калгасе „1-га мая“ Н-Сельскага с/сав. аказана прамое сапраціўленне правадзімым мерапрыемствам па апрадзяленню ураджайнасці з боку кіраўніцтва калгасу, выявіўшаяся у тым, што ня гледзячы на дагаворанасць старшыні калгаса з райінспэктарам т. Пэўзнер і упаўнаважаным па вымярэнню ільну т. Юдовым аб завозцы ільну з поля толькі на другой дзень—старшыня калгасу Красоўскі і брыгадзір Марковіч гэткі пачалі звозіць зара-жа, без папярэджання, з мэтай не даць магчымасці правесці вымярэнне ураджаю ільну.

Апрача гэтага, знаходзячыйся у гэтым калгасе аграном МТС т. Чукасава, замест дапамогі гэтай справе, сама спрыяла

зрыву яе, прапанаваўшы неаднакратна звозіць лён з поля.

Пры праверцы становішча пасеву ільна інспэктарам НГУ т. Пэўзнер устаноўлена, што ураджайнасць ільна-семяні чакаецца ня менш 3,0 цэнт. з га, і валакна 2,5 цэнт. з га, чаго у гутарцы не адмаўляў і сам старшыня калгасу, але ён-жа на 1/VIII-34 г. даў звесткі у МТС па ільну-семяні—2,0 цэнт., і па валакну 1,5 цэнт. з га.

Гэтакае становішча спраў інакш нельга кваліфікаваць як злоснае ашуканства пралетарскай дзяржавы, машэніцтва, як клясава-варожае арганізаванае выступленне кулацкага антысемічнага ахвосця (старшыня калгасу „1-га мая“ Красоўскі аддаецца пад суд за антысэмізм).

Загадваю: т. Пэўзнер справу аб старшыні к-су „1-га мая“ Красоўскага і брыгадзіра Маркевіча, брыгадзіра кал-су „Перамога“ Мікульчыка і агранома МТС Чукасаву перадаць райпракурору для прыцягнення іх да судовай адказнасці.

Просім пракурора рэспублікі т. Кузміна выслаць выязную судовую сэсыю для разгледжання справы у паказальным парадку.

3. т. Пэўзнер справу на брыгадзіра калгаса „Перамога“ т. Мікульчыка за зрыў вымярэння ільну у калгасе перадаць пракурору для прыцягнення да судовай адказнасці і прасачыць за ходам справы.

Нач. Кір. Нар.-Гасп. Учота БССР *Уладзімірскі.*

---

# Загад

## па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР

**ад 14 жніўня 1934 г.**

§ 1.

Асабістай праверкай работы інспэктара Наргасучота Асвейскага раёна т. Васілеўскай па вымярэнню ураджая ільна я устанавіў, што: 1) работа пачата з спазненнем, 2) у якасці упаўнаважаных па вымярэнню вылучаны самі калгаснікі абследуемых калгасаў, што не забяспечвае дастатковай аб'ектыўнасці дагляданьня, 3) у калгасе „Бальшавік“ вылучаны у якасці упаўнаважанага т. Крыванос, зусім не здолен і не падрыхтован спраўляцца з такой работай, 4) т. Васілеўская абмежавалась простай перадачай інструкцыі т. Крываносу, не забяспечыўшы інструктажа яго, і не прыцягвала да інструктажа агранома.

У выніку па калгасу „Бальшавік“ работа сарвана.

За недапушчальныя і фармальна бюрократычныя адносіны да адказнага учотнага задання абʻяўляю т. Васілеўскай суровую вымову.

§ 2.

Праверкай пастаноўкі справы вымярэння ураджайнасці ільна у Полацкім і Аршанскім раёнах я устанавіў адсутнічанне непасреднай праверкі інспэктарамі Наргасучота т. Мізаравым і т. Соміным хода гэтай работы (неглядзячы на спэцыяльна адпушчаныя сродкі). Зварачваю увагу т. т. Мізарава і Соміна на неабходнасць асабістай праверкі у атабраных калгасах.

§ 3.

Асабістай праверкай пастаноўкі справы вымярэння ураджайнасці ільна у Расонскім раёне я устанавіў грубае парушэнне інструкцыі ЦУНХУ СССР т. Ціцельбаумам, ўпаўнаважаным па калгасу „2-й пяцігодкі“ (Сакалішчанскі с/с), якая выразілась у тым, што для вымярэння узяты па калгасу не усе участкі засеяныя ільном (17 га), а ўсяго 5 га, у двух участках проізвольна адабраных Ціцельбаўмам, што абесцэнівае усю работу.

За адсутнасць кіраўніцтва гэтай работай і праверкі яе абʻяўляю суровую вымову інспэктару Шлямкову.

Нач Кір. Нар. Гасп. Учота БССР *Владзімірскі.*

---

## Усім інспэктурам Наргасучота БССР.

Побач з выкананнем учотна-статыстычных работ па вызначанаму КНГУ плану, перад інспэктурамі Наргасучота пастаўлена зараз адна з аснаўных гаспадарча-палітычных задач усямерна садзейнічаць налажванню учота выканання калгасна-сялянскімі масамі абавязковых паставак дзяржаве.

Для паспяховага выканання паказанай задачы Вам неабходна зараз-жа па атрыманні гэтага звязацца з упаўнаважаным СНК па нарыхтоўкам і прыцягвая камсамольскі і сельсавецкі актыў правесці наступнае:

1. Праверыць пастаноўку учота і кантроля па усіх пунктах і базах прыёмкі абавязковых паставак дзяржаве зернавых, сена, ільну, малака, масла, мяса, бульбы і г. д.

2. Асабіста Вам і работнікам інспэктуры выехаць у с/саветы і праверыць пастаноўку первічнага учота і у прыватнасці акуратнае вядзенне пагаспадарчай кнігі учота выканання насельніцтвам абавязательств перад дзяржавай (ф. № 3).

3. У выпадках вымушэнага ...
і кантроля у нарыхтоўчых пунктах і базах альбо у с/саветах з прычыны неасведамлення як патрэбна паставіць учот, дэталёва праінструктаваць і прымусіць пры Вас жа паставіць учот належным чынам.

4. У выпадках злоснага нежадання наладзіць і весці учот па формам, зацверджаным СНК СССР—безадкладна прыцягнуць вінаватых да крымінальнай адказнасці, згодна пастановы ЦВК і СНК СССР ад 27-га лістапада 1933 г.

5. Сумесна з Райзо і МТС праверыць і дапамагчы калгасам наладзіць учот ураджая, як: учот снапоў на полі, учот перавозкі снапоў з поля да пункта малацьбы, учот зярна адвазімага на здаточны пункт і г. д.

Вынікі праведзенай Вамі паказанай работы даслаць учотнай інспэкцыі КНГУ не пазней 20-га жніўня г. г.

З прычыны таго, што некаторымі інспэктурамі неправільна размеркаваны кнігі первічнага учота па с/саветам і не праверана як гэтыя кнігі с/саветамі скарыстоўваюцца—атрымалась, што паасобныя сельсаветы маюць лішнія кнігі, а другім не хапае, неабходна гэту справу неадкладна урэгуляваць.

Улічвая палітычную важнасць налажвання учота і кантроля у справе нарыхтовак, прапануем паказаныя мерапрыемствы правесці самым уважлівым чынам не зацягвая на доўгі пэрыяд і па вынікам праведзенай Вамі работы КНГУ будзе судзіць аб палітычнай свядомасці і працаздольнасці кожнай інспэктуры.

Нач. Кір. Нар. Гасп. Учота БССР *Владзімірскі.*
Нач. Учотнай Інспэкцыі *Магідаў.*

25|VII-34 г.

---

Цэнтральнае
Кіраўніцтва Наргасучота
Дзяржплана СССР
12|VII-1934 г.

## Усім КНГУ Саюзных Рэспублік, раёнаў і абласцей.

У дадатак да н/ліста ад 7/VI-34 г. за № 04/21 паведамляецца, што інструкцыю ЦУНХУ і прокурора Саюза аб прадстаўленні інспэктарам Наргасучота праў органаў дазнання—СНК СССР адмяніў і пагэтаму выданную інструкцыю прапануецца лічыць несапраўднай.

Вытварэнне дазнання па парушэнням у галіне учоту і справаздачнасці вядуць следчыя органы (прокуратуры), куды і належыць перадаваць усе справы аб гэтых парушэннях.

Нам. Нач. Цэнтр. Учотнай Інспэкцыі
КНГУ Джяржплана СССР *Моргенштерн.*

## Усім Інспэктурам Наргасучота.

У звязку з паступаючымі ад інспэктур запытаннямі у якіх кнігах сельсавецкага учота павінна адзначацца здача дзяржаве сена і ільну—растлумачваем, што здачу сена і ільну неабходна адзначаць па кнізе учота выканання насельніцтвам абавязацельстваў перад дзяржавай (форма № 3), у раздзеле 5, у графах 8 і 9; пры чым у агульны ітог па зернавым (графы 1—7) сена і лён не уваходзяць.

Нач. Учотнай Інспэкцыі КНГУ БССР *Магідаў.*

---

## Усім Інспэктурам Наргасучета.

З прычыны таго, што нам неабходна приступіць да друкавання кніг первічнага учота у сельсаветах на 1935 г., прапануем зараз-жа даслаць учотнай інспэкцыі заяўку з указаннем колькі Вам патрэбна для поўнага забяспячэння сельсаветаў ф. № 1, 2а, 2б, 3 і кніг пратаколаў, г. зн. паведаміце колькі у Вашым раёне маецца калгасаў, і гаспадарак калгаснікаў і аднаасобнікаў.

Адказ чакаем не пазней 25 жніўня.

Адначасова паведаміце, што Вамі зроблена па правядзенні дэкадніка учота у калгасах.

Нач. Учотнай Інспэкцыі КНГУ БССР *Магідаў.*

---

Сектар Учота
Капітальных работ
і Будаўніцтва
ЦУНХУ Дзяржплана
СССР
19/VII—1934 г.
№ 19/83

## Цыркулярна

Усім Абл. і Рэспубл. УНХУ.

Усім Інспектарам Наргасучота.

У выкананне загада за № 189 ад 3/VII-34- па ЦУНХУ сектар учота капітальных работ і будаўніцтва дае наступныя указанні:

I. Па лініі Райінспектур Наргасучота:

1. Пры бягучай рэгістрацыі аб'ектаў будаўніцтва ў соўгасах і калгасах звярнуць асаблівую увагу на тое, каб па жывелагадоўчым пабудовам (канюшні, кароўнікі і інш.) **абавязкова указвалася магутнасць (вмесцимасть) пабудовы** у галавах жывёлы **па праэкту** калі рэгіструецца **пачатак** будаўніцтва (гр. 7 п. 14 карткі 1-н) і **фактычна**—калі рэгіст-

руецца **скончэнне** пабудовы (тыя-ж пункты карткі 1-0) ці **знос** (картка № 2).

2. Звяртаецца асаблівая ўвага райінспектур на тое, што вельмі часты выпадкі няправільнага запаўнення картак рэгістрацыі будаўнічых работ **па капітальнаму рамонту, пашырэнню, перабудове і "іншым" будаўнічым аперацыям** па графам натуральных паказчыкаў (гр. № 1, 2, 3, і 4 пункта 14 картак 1-н і 1-0). Няправільнасць запаўнення заключаецца ў тым, што ў указаных графах замест таго, каб даваць звесткі толькі **па расшыранай** часці аб'екта, падпаўшага даннай аперацыі, даюцца звесткі па усёй пабудове ў цэлым, што прыводзіць **да няправільных вывадаў аб нормах каштоўнасці гэтых** аперацый і **праўвелічэнню ўноў пабудаванай плошчы і ўмясцімасці.** Райінспектурам належыць асабліва дасканала правяраць запаўненне указаных граф.

3. У мэтах здавальнення патрэб раённых арганізацый у правераных параённых данных пры ажыццяўленні гэтымі арганізацыямі канкрэтнага планіравання і аператыўнага кіраўніцтва гаспадарчымі мерапрыемствамі па аднаўленню, узмацненню і развіццю жывёлагадоўлі —у райінспектурах складаць штомесячна зводку аб ходзе будаўніцтва жывёлагадоўчых пабудоў па раёну па матэрыялах бягучай рэгістрацыі будаўніцтва, паступіўшых **за справаздачны месяц.**

4. Да складання месячных зводак райінспектуры прыступаюць з жніўня месяца. Першая зводка складаецца за ліпень месяц.

Пры гэтым, у віду таго, што згодна арглана бягучай рэгістрацыі будаўніцтва, у першые дні месяца магчыма рэгістрацыя буд-ва аб'ектаў, пачатых і скончаных у папярэднім справаздачным месяце,—да складання зводкі у райінспэктурах патрэбна прыступаць 7 числа месяца, наступнага за справаздачным з такім разлікам, каб зводка адсылалась у рэспубл. УНХУ не пазней 10 числа тога месяца разам з карткамі, увайшоўшымі ў зводку жывелагадоўчых пабудоў і з карткамі астатніх зарэгістраваных у працягу месяца аб, ектаў.

5. У мэтах замацавання для данай работы таго аператыўнага значэння, якое надаецца ёй загадам па ЦУНХУ за № 189, райінспектарам належыць мець у віду і прыняць усе захады да забеспячэння поўнага ахопу рэгістрацыяй будаўніцтва у соўгасах і калгасах і своечасовага складання зводак і прадстаўлення іх без спазнення.

II. Па лініі рэспубл. УНХУ.

6. У развіццё данага цыркуляра ўсім УНХУ прапануецца даць сваім райінспектурам неабходныя канкрэтныя

указанніі з учотам мясцовых умоў для забяспечання поўнага ахопу рэгістрацыі і своечасовасці атрымання з раёнаў зводак.

7. На падставе атрыманых ад Райінспектур зводак, Рэспубл. УНХУ складаюць штомесячную адну агульную рэспубл. зводку па той жа форме без выдзялення паасобных раёнаў і не пазней 20 чысла месяца наступнага за справаздачным адпраўляюць яе у ЦУНХУ.

8. Апрача таго, у дапаўненне да разрэзаў разработкі матэрыялаў рэгістрацыі, паказаных у аргплане па бягучай рэгістрацыі будаўніцтва ад 26/VI-1934 г. за № 19/83,для рэспубл. УНХУ устанаўліваецца квартальная распрацоўка матэрыялаў будаўніцтва жывёлагадоўчых будынкаў па той жа форме месячнай раённай зводкі па рэспубліцы цалкам. **Пры гэтым, квартальная распрацоўка у рэспубл. УНХУ вытвараецца непасрэдна па матэрыялах атрыманых з раёнаў картак рэгістрацыі, а не шляхам суміравання даных штомесячных зводак**. Трэба звярнуць увагу, каб у распрацоўку за справаздачны пярыяд былі уключаны толькі карткі на аб'екты, сапраўды пачатыя і закончаныя будаўніцтвам ці знесеныя у данным пярыядзе (гл. пункт 16 аргплана ад 26/VI-34 г. за № 19/83).

9. У дасланым ЦУНХУ раней разрэзе 1-ай рэспубліканскай квартальнай распрацоўкі па групе „нншыя" будаўнічыя аперацыі, па будынкам дабаўляецца адзін радок: „у тым ліку жывёлагадоўчыя будынкі".

10. Дадатковая распрацоўка матэрыялаў рэгістрацыі будаўніцтва жывёлагадоўчых будынкаў складаецца рэспубл. УНХУ за першае паўгоддзе у цэлым, за III квартал і за 11 месяцаў прадстаўляецца у ЦУНХУ ва ўстаноўленыя тэрміны.

За першае паўгоддзе зводка прадстаўляецца адначасова з другімі разрэзамі, г. зн. не пазней 15/VIII-34 г.

11. Аб прынятых мерах і аб рэзультатах патрабуемага сапраўднага паварота апарата учота будаўніцтва да справы каранога паляпшання становішча жывёлагадоўлі, сектарам учота будаўніцтва УНХУ паведаміць ЦУНХУ к 15/VIII-1934 г.

Нам. Нач Сектара Учота Капіт.
Работ і Будаўніцтва *Дзік.*

Ст. Эканоміст *Чаплін.*

---

ЦКНГУ Дзяржплана
СССР
Сектар Учота
Капітальных работ
і Будаўніцтва
26/VI—1934 г.
№ 19/83

## Дадатак да оргплана бягучай рэгістрацыі буд-ва у 1934 г.

У сувязі з заканчэннем работ па даабследванню закончанага у 1933 г. і пераходзячага на 1934 г. буд-ва неабходна завастрыць увагу райінспектур на узмацненне у 1934 г. бягучай рэгістрацыі буд-ва.

Адносна гэтай работы указваем наступнае:

**I. Па арганізацыйных пытаннях.**

1. Бягучая рэгістрацыя будаўнічых работ у 1933 г. дала надзвычай нізкі ахоп буд-ва.

Намі падбіты ітогі па даных квартальнай распрацоўкі матар'ялаў рэгістрацыі буд-ва 1933 г. і аказалася, што па закончанаму буд-ву па СССР (без БССР) у зводку увайшло усяго толькі каля 7400 аб'ектаў.

Разам з БССР (не прадставіўшай сваечасова матар'яла) бадай ці сабралося-б болей 8000 аб'ектаў. Між тым, як па даных тэлеграфных паведамленняў у зводку № 4 па становішчу на 10-е мая, не даючай яшчэ канчатковых даных аб колькасці скончаных у 1933 г. аб'ектаў увайшло 63641 скончаных аб'ектаў. Такім чынам можна лічыць даказаным, што толькі 10-11% скончанага у 1933 г. буд-ва ахоплена было бягучай рэгістрацыей буд-ва у 1933 г.

У выніку такой пастаноўкі работы на мясцах, даабследванне скончанага у 1933 г. буд-ва, пастаўленае намі у 1934 г. па сутнасці ператварылася ў суцэльнае абследванне гэтага буд-ва.

1934 г. з'яўляецца ужо другім годам існавання бягучай рэгістрацыі буд-ва.

Неабходна прыняць усе меры к таму, каб гэту работу замацаваць і паставіць на такую вышыню, каб даабследванне буд-ва 1934 г. можна было бы правесці у 1935 г. лягчэй, хутчэй і з меншымі затратамі працы чым пры даабследванні буд-ва 1933 г.

Поспех правядзення бягучай рэгістрацыі буд-ва у 1934 г. у асноўным будзе залежыць ад работы райінспектур на мясцах.

Мы лічым, што работа па бягучай рэгістрацыі буд-ва не з'яўляецца вялікай нагрузкай для райінспектара.

У мэтах рацыяналізацыі работы па рэгістрацыі буд-ва у райінспектурах, мы прапануем замацаваць пэўныя

дні месяца (напр. ад 25 да 30 чысла), на працягу якіх райінспектар займаецца рэгістрацыяй буд-ва. Гэта не значыць, безумоўна, што райінспектар павінен адмовіцца зрабіць рэгістрацыю аб'ектаў, калі напр. прадстаўнік якога небудзь калгаса прыехаў у РВК па розных справах, у тым ліку і з тым, каб зарэгістраваць аб'екты буд-ва; гэта таксама не значыць, што інспектар павінен адмовіць забудоўшчыку ў выдачы бланкаў для рэгістрацыі аб'ектаў буд-ва, калі ён прышоў за імі ў другія дні.

Сэнс нашай прапановы зводзіцца да таго, каб прадставіць райінспектару магчымасць канцэнтрацыі сваёй увагі да усіх работ па рэгістрацыі буд-ва ва ўказаныя дні.

Выдаючы бланкі для рэгістрацыі аб'ектаў буд-ва, інспектар можа прапанаваць забудоўшчыку прынесці запоўненыя бланкі ў гэтыя дні. Ва указаныя дні інспектар павінен папаўняць маючыяся ў яго спісы буд-ва новымі аб'ектамі, якія на працягу м-ца пачалі будаваць у раёне.

Папаўненне павінна рабіцца на падставе ўсіх маючыхся крыніц: бланкаў будкантор, Дзяржбудкантролю, тытульных спісаў ведамстваў, органаў камун. гаспадаркі і др.

Ва ўказаныя дні інспектар павінен дасылаць паведамленне забудоўшчыкам, незарэгістраваўшым аб'екты буд-ва.

Пытанне аб устанаўленні пэўных дней для рэгістрацыі буд-ва ў раёнах мы ставім поўнасцю на вырашэнне обл. (рэсп.) КНГУ і чакаем ад іх паведамлення сваіх думак па гэтаму пытанню.

У мэтах узмацнення рэгістрацыі буд-ва прапануем таксама рашуча карыстацца прыцягненнем да адказнасці ухіляючыхся ад рэгістрацыі буд-ва.

Усе выпадкі штрафа пажадана апублі̇ковываць у мясцовым друку.

2. У адносінах аргплана па бягучай рэгістрацыі буд-ва мы не уносім ніякіх змен. Пытанне аб цэнзе для аб,ектаў буд-ва намі пакуль не зменена, а менавіта: для часовых аб'ектаў цэнзам з'яўляецца сметны кошт аб'ектаў ад 3000 руб.; усе часовыя аб'екты ніжэй указанай сумы рэгістрацыі не падлягаюць. Сталыя аб'екты рэгіструюцца незалежна ад кошту.

**II. Па запаўненню картак.**

3. Звяртаем увагу на неабходнасць дасканалага запаўнення пункта 4 картак (назва аб'екта).

Не трэба пісаць „фабрычна-завадзкі корпус", „майстэрня". Назва аб'екта павінна быць напісана так, каб відаць было яго назначэнне напр. карбінны корпус, механічная майстэрня, зборачны корпус, школа I ступені, жылы дом спецыялістаў і др.

У працэсе шыфроўкі картак па даабследванню буд-ва 1933 г. выявілася шмат картак, якія прышлося аднесці у групу „іншыя прамысловыя будынкі“ (шыфр 115), выключна таму, што у п. 4 было напісана „фабрычны корпус“, „майстэрня“.

4. Не гледзячы на тое, што у мэтах цэнтралізаванай, механізаванай распрацоўкі прыходзіцца ва ўсіх картках акругляць ценасныя паказчыкі да цэлых тысяч рублёў, пры запаўненні картак у парадку бягучай рэгістрацыі буд-ва патрэбна карыстацца нашымі указаннямі у інструкцыях па запаўненню картак 1-Н і 1-0: усе цэнасныя паказчыкі павінны давацца ў тысячах рублёў з адным дзесятковым знакам, натуральныя паказчыкі—у цэлых лічбах без дзесятковых доляй; пры ручной распрацоўцы наяўнасць аднаго дзесятковага знака не вызаве цяжкасцей, між тым абавязаць забудоўшчыка даваць у картках каштоўныя паказчыкі у цэлых тысячах не варта: могуць атрымацца вялікія неўвязкі.

5. Пры выкананні даабследвання скончанага у 1933 г. і рэгістрацыі пераходзячага на 1934 г. буд-ва, мелі месца выпадкі дачы на адным бланку звестак па некалькім аднатыпным аб'ектам.

У сувязі з тым, што пры механізаванай распрацоўцы адна картка на некалькі аб'ектаў можа ісці толькі за адзін аб'ект, прыходзіцца рабіць вялікую работу па перапісцы картак. Каб унікнуць паўтарэння гэтай лішняй работы, калі у 1935 г. будзе вытварацца цэнтралізаваная распрацоўка матар'ялаў бягучай рэгістрацыі буд-ва 1934 г., прапануем на аднэй картцы рэгістраваць толькі адзін аб'ект.

6. Неабходна сістэматычна кантраліраваць паступаючыя у КНГУ карткі бягучай рэгістрацыі буд-ва і аб усіх выяўленых памылках і неўвязках павецамляць у раён, нават і ў тым выпадку, калі некаторыя неўвазкі могуць быць выпраўлены і у КНГУ без дапамогі райінспектара. Гэтым самым райінспектар зможа выправіць карткі ў сваёй картатэцы і дасягнецца адзінства даных у абласці і раёнах, а акрамя таго райінспектар прывучаецца больш дасканала правяраць паступаючыя да яго запоўненыя бланкі і лепей заўважаць памылкі у бланках.

**7. Трэба звяртаць самую сур'ёзную ўвагу на паўнату запаўнення картак.**

У прыватнасці указваем на нездавальняючае запаўненне пунктаў аб часе пачатка і сканчэння буд-ва па плану і фактычна: маецца шмат выпадкаў, калі гэтыя даныя зусім не указываюцца, альбо указваецца толькі год без указання месяца і чысла.

# II. Работа КНГУ і яго сыстэмы.

## Ганьба зрыўшчыкам рэгістрацыі будаўніцтва.

Рэгістрацыя будаўніцтва праводзіцца інспектурамі Наргасучота ужо другі год. Але трэба сказаць, што як інспектуры Наргасучота так і КНГУ гэтай работы недаацэнівалі і не вялі барацьбы за лепшае выкананне яе. Гэта работа мае усё для таго, каб праходзіць добра. Інспектуры забяспечаны усім неабходным інструментарыем і інструкцыямі, пастанова урада дае магчымасць хутка прыцягваць да адказнасці усіх ухіляючыхся ад рэгістрацыі. Для таго, каб забяспечыць паспяховае выкананне патрэбна толькі акуратная работа райінспектара.

Існуючы ход рэгістрацыі будаўніцтва нікога не можа задаволіць. Партыяй і урадам дадзена заданне дакладна штомесячна асвятляць ход жывёлагадоўчага будаўніцтва у соўгасах і калгасах. У нас-жа становішча з работай такое, што па Нараўлянскаму, Бярэзінскаму, Рагачоўскаму, Сіроцінскаму і некаторым іншым раёнам мы не толькі не можам сказаць, колькі пабудоў пачата і скончана за прайшоўшы месяц, а у гэтых раёнах яшчэ не скончана рэгістрацыя будаўніцтва нават за 1933 г. Такое з'явішча—пазор для нашай сістэмы.

Ясная справа, што гэтаму трэба як мага хутчэй палажыць канец. Друкуемыя загады па ЦУНХУ СССР т. Краваля і па КНГУ БССР тав. Владзімірскага павінны палажыць круты пералом у гэтай рабоце.

Мы павінны абвясціць рашучую барацьбу усім зрыўшчыкам рэгістрацыі будаўніцтва. Загадам т. Владзімірскага інспектар Нараўлянскага р-на тав. Селезнёў, ганебна правальваўшы рэгістрацыю будаўніцтва, з работы знят, інспектару Бярэзінскага р-на т. Пярэдні зроблена суровая вымова з папярэджаннем. Калі тав. Пярэдня не забяспечыць работы ў бліжайшыя дні, ён будзе знят з работы. Гэта з'яўляецца папярэджаннем усім астатнім райінспектарам.

Загад т. Владзімірскага падкрэслівае неабходнасць сістэматычнай работы інспектара над рэгістрацыяй будаў-

ніцтва, для чаго інспектар адну пяцідзёнку ў месяц—з першага па пятае кожнага месяца—павінен займацца пытаннямі рэгістрацыі будаўніцтва.

Тав. Владзімірскі абавязаў усіх інспектароў Наргасучота асабіста абследваць ход будаўніцтва па 3—5 калгасам і соўгасам і даць характарыстыку будаўніцтва у гэтых калгасах і соўгасах.

Асаблівую ўвагу павінны інспектары звярнуць на сваечасовае прадстаўленне штомесячных зводак жывёлагадоўчага будаўніцтва, якія дадуць нашым кіруючым органам каштоўны матэрыял для аператыўнай работы.

Чарговая задача інспектароў Наргасучота—перабудаваць работу так, каб сваечасова і добраякасна асвятляць ход і рэзультаты будаўніцтва—павінна быць выканана.

*Мохарт.*

---

## Некалькі заўваг аб запаўненні картак па рэгістрацыі будаўніцтва некаторымі інспектурамі.

Гарадоцкі раён даслаў за 1933 г. каля 500 картак і амаль усе аб'екты па роду будаўнічых аперацый значацца як "адбудаваныя." Пры гэтым па ўсім аб'ектам каштоўнасць увесь час трымаецца у рамках 10 руб. за кубамэтр, а карысная плошча ўсіх аб'ектаў раўняецца плошчы асновы па знадворнаму абмеру.

Такі матэрыял дае палагаць, што усе карткі запаўняліся у інспектуры аднэй асобай (аб чым сведчыць і подчарк), пры гэтым асобай, якая немае ніякага уяўлення, што такое будынак наогул, якая розніца паміж плошчай асновы і карыснай і паміж новым будаўніцтвамі адбудаваннем.

Вызывае сумненне і матэрыял Прапойскага р-на, бо усе карткі запоўнены адным почаркам.

Па Асвейскаму, Аршанскаму, Мозырскаму, Чэрвенскаму і некаторым др. р-нам многа падвойных картак (каштарысны кошт падвойных аб'ектаў каля 900 тыс. руб).

Смалявіцкая інспектура ўмудрылася зарэгістрыраваць, як адзін аб'ект буд-ва вузкакалейнага пуці працяжнасцю 13 клм. і паказаць каштоўнасць 600 тыс. руб. Пры праверцы-ж аказалася, што у гэтыя 600 т. р. уваходзяць: абсталяванне (вагоны), жыллёвае будаўніцтва і іншыя будынкі, звязаныя з будаўніцтвам вузкакалейкі.

У гэтай-жа інспектуры усе зарэгістрыраваныя сталовыя і інтэрнаты маюць зусім аднолькавыя размеры.

Па Дзяржынскаму р-ну кухні для свіней будуюцца такіх-жа размераў, як і свінарнікі на 100 галоў.

Вельмі многімі інспэктурамі у картках даюцца размеры неадпавядаючыя паказанай умясцімасці будынка. Напрыклад інтэрнат на 27 чалавек з плошчай 15 кв. м. (Вушачы): свінарнік на 100 галоў з плошчай у 100 мэтр. (Магілеў): бульбахавальнік на 30 тон аб'емам у 120 куб мэтр. і амбар на 10 тон, а'бёмам 32 куб мэтр. (Карма). свінарнік на 300 гал. з карытснай плошчай у 209 кв. мэтр. (Менск), і. г. д.

Некаторые інспектуры не лічаць патрэбным паказваць род будаўнічай аперацыі, а таксама тэрмінаў фактычнага пачатка і заканчэння буд-ва. Многія інспектуры рэгістрыруюць рамонт будынкаў, якія не дае павялічэнне плошчы.

Дубровенскі інспектар (т. Жукаў) да гэтага часу няведае, што такое доўгі перапынак у буд-ве аб'екта, не ведае як даваць размеры па іншым будаўнічым аперацыям (капіт. рамонт, адбудаванне, надбудова і г.д. п. 17 інстр. да картак 1-н і 1-о і п. 2 разд. III інстр. да складання штомесячнай зводкі) і не ведае ці патрэбна рэгістраваць знос у сувязі з пабудовай з некалькі знасімыя аб'екты—аднаго аб'екта (п, 6 інстр. да картак № 2)

У гэтым годзе прыйдзецца чырванець за матэрыял нашых інспектароў бо усе карткі дасылаюцца у Маскву для дэтальнага азнаямлення з працай інспектур БССР.

Калі узяць для прыклада сістэматызаваны матэрял па рэгістрацыі будаўніцтва скончанага ў 1933 г. перашоўшага на 1934 г, то маем наступны малюнак.

Усяго паступіла 11306 картак з іх: поўнаценныя 6098 карткі ці 53,9⁰/₀ непоўнаценных 4521 к-ка ці 40⁰/₀, і 687 к-к ці 6,1⁰/₀, якія зусім нельга скарыстаць (да непоўнаценных аднесены карткі, якія не маюць адказу па аднаму з пытанняў аб грашовых затратах).

У перадзі усіх па дасылцы дрэннага матаряла ідуць наступныя р-ны: Нароўля, Крупкі, Рагачоў, Брагін, Сенно, Жлобін, Старобін, Расоны, Бабруйск, Тураў, Орша, Шклоў, Асвея, Заслаўль, Крычаў, Лагойск, Менск, Парычы, Пухавічы, Хойнікі і Церахава.-

*Кармалітаў.*

---

## Дынаміка капітальнага будаўніцтва.

Аднэй з важнейшых вучотных работ зяўляецца работа па асвятленню дынамікі каштоўнасці будаўніцтва. Партыей і урадам пастаўлена перад будаўнічымі арганізацыя-

мі баявая задача—будаваць хутка, дабраякасна і дабіцца зніжэння сабекошту будаўніцтва ў 1934 г. на 15%. Але гэтае заданне будаўнічымі арганізацыямі да гэтага часу не выпаўняецца, і нават наадварот распрацоўка паступіўшага за I квартал матар'яла па дынаміцы будаўніцтва паказала замест зьніжэння сабекаштоўнасці на 15% рост яе па ўсей БССР на 6,9%.

СНК БССР, разглядзеўшы гэта пытанне прыняў 4/VII-34 г. пастанову, дзе спэцыяльным пунктам падкрэслена важнасць работы па дынаміцы будаўніцтва: „Абавязаць начальнікаў пабудоў пакквартальна прадстаўляць Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота весткі па устаноўленай ЦУНХУ Дзяржплана СССР форме".

Работа па дынаміцы каштоўнасці чыстага будаўніцтва праводзіцца толькі у частцы райінспэктур, там дзе маюцца пляцоўкі з аб'емам капіталаукладанняў у 1934 г. у 100 тысяч рублёў.

Практыка работы за першае паўгодзе паказала, што не усе інспэктуры справіліся з гэтай работай. Добра выканалі гэту працу Гомельская інспектура, якая па баявому выканала гэту работу, датэрмінова прыслала ўвесь матар'ял, абеспечыла якасць гэтай работы. Таксама не дрэнна пастаўлена гэта работа ў Барысаўскай райінспэктуры і часткова ў Магілеўскай райнспектуры.

Адстаюць з выпаўненнем работы і якасці яе Бабруйская і Вітебская райінспэктуры.

Дрэнна пастаўлена была праца гэта Менскай Горінспэктурай, Жлобінскай, Полацкай і Аршанскай, райінспэктурай, якія не поўнасцю прыслалі матар'ял, дрэнная якасць і не поўны ахват усіх пабудоў іхняга раёну.

Перад райінспэктарамі стаіць баявая задача аўладання гэтай работай, абеспячэнні якасці работы і самае галоўнае апэратыўнасці работы, гэта значыць каб матар'ял высылаўся сваечасова, каб можна было сваечасова сігналізаваць ураду, як абстаіць справа зьніжэння сабекаштоўнасті буд-ва ў БССР.

Нашае Кіраўніцтва ў 1934 г. па гэтай рабоце павінна выйці у першыя шэрагі у СССР, а гэтая магчымасць у нас ёсць і у першую чаргу гэта залежыць ад работы нашых райінспэктароў.

*Фрыдман.*

---

# Папярэднія ітогі і урокі правядзення Чэрвенскага учота жывёлы у БССР.

Адной з асноўных задач 2-ой Пяцігодкі у галіне сельскае гаспадаркі з'яўляецца задача вырашэння жывелагадоўчай праблемы.

Дзяржаўны план развіцця жывелагадоўлі—моцны сродак пралетарскай дзяржавы у барацьбе за найскарэйшае ажыцяўленне гэтай задачы. Мэтад планавых заданняў развіцця жывёлагадоўлі калгасам, калгаснікам і аднаасобнікам патрабуе праверанай і точнай цыфры пагалоўя жывелы, па кожнаму саўгасу, калгасу і аднаасобнай гаспадарцы. Дзяржаўны план развіцця жывёлагадоўлі патрабуе грунтоўных выходных данных аб колькасці пагалоўя жывёлы у разрэзе соцыяльных сэктароў і кожнай гаспардарцы у паасобку.

Ужо у гэтым годзе на органы Народна-Гаспадарчага Учота, з верху да нізу, партыей і урадам была ускладзена адказнейшая задача—правядзенне Чэрвенскага учота жывёлы.

Правядзенне Чэрвенскага учота—палітычны экзамен для органаў Наргасучота, праверка іх баяздольнасці і умення дабраякасна і у тэрмін выконваць пастаўленыя партыей і урадам задачы.

Вакол гэтай вялізарнейшай і адказнай гаспадарча-палітычнай задачы была мабілізавана думка партыйнай-савецкай, камсамольскай і прафэсыянальнай грамадзкасці. У дапамогу органам наркамфіна і наргасучота, па правядзенню учота жывёлы, былі прыцягнуты: раённы партыйна-камсамольскі актыў, партыйна-камсамольская арганізацыя вескі, сельсаветы і актывісты калгаснікі.

Як-жа органы наркамфіна і наргасучота справіліся з пастаўленай перад імі задачай?

Неглядзячы на цэлы шэраг пастаноў, як Саюзных так і Беларускіх партыйных і урадавых органаў, даўшых упаўне заслужаную ацэнку нездавальняючага правядзення учота жывелы у мінулыя гады, а таксама папярэдзіўшых аб недапушчэнні паўтарэння памылак пры правядзенні учота ў гэтым годзе,—усёж у парадку бальшавіцкай самакрытыкі, трэба сказаць, што як органы наркамфіна так і органы наргасучота у поўнай меры не ізвлеклі для сябе патрэбных урокаў.

Прад'яўлены партыей і урадам рахунак—высвятлення точнай лічбы пагалоў'я жывёлы—органамі і наркамфіна і наргасучота цалкам не аплочан.

Мы не мелі ні аднаго раёна дзе-б пасля першапачаткова га наркамфінаўскага учота не была ў той ці іншай меры праведзена альбо масавая праверка, альбо зусім паўторны учот.

Аб чым гэта сведчыць?

Гэта становішча гаворыць аб тым, што:

Па—першае—у цэлым шэрагу раёнаў учот жывёлы з самага пачатку яго правядзення быў пушчан на апортуністычны самацек; у сувязі з чым мела месца масавае укрыцце жывёлы ад дзяржаўнага учота, што было выяўлена у самым пачатку учота кантрольнымі абходамі органаў наргасучота;

Па—другое—у практыцы падатковых камісій быў дапушчан фармальна-бюракратычны, чыноўніцкі падыход да справы правядзення учота жывёлы; і

Па—трэцяе—меўшых месца прэступна-пагардлівых адносінах да справы учота жывёлы з боку кіруючых работнікаў некаторых раёнаў (Гомель, Бягомль, Полацк, Прапойск, Лагойск, і інш.).

Да пачатку учота не была праведзена неабходная масава-растлумачальная праца сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў аб мэтах і задачах учота жывелы. Клясавы-ж вораг не спаў і у цэлым шэрагу раёнаў і сельсаветаў выкарыстаў адсутнасць масава-растлумачальнай работы у сваіх мэтах, распусціўшы чуткі аб тым, што учот праводзіцца з мэтай адабрання жывёлы, налажэння мяса-малочнага падатка і г. д.

Як вынік гэтага, з самага пачатку учота правезденай інспэктурай НГУ, па паасобных паселішчах, выбарачнай 10-ці процэнтнай кантрольнай праверкай было выяўлена масавае укрыцце жывёлы.

На падставе першых сігналаў, аб масавым укрыцці жывёлы, Наркамфінам і ЦУНХУ СССР была раёнам дано указанне аб правядзенні па ўсіх раёнах 10-дворнай праверкі у натуры па лініі органаў наркамфіна.

На абавязку раённай інспектуры НГУ ляжала: забяспечыць сваечасовыя і добраякасныя кантрольныя абходы, пасля паследніх праверак па лініі органаў наркамфіна. Калі інспектура НГУ недрэнна справілся з арганізацыяй і правядзеннем учота жывёлы у гарадах і гарадскіх паселішчах, а таксама ускрыццем масавага недаучота жывёлы падатковымі камісіямі з самых першых дзён учота,—то у адносінах забяспечэння поўнага аб'ёма і ў устаноўленым парадку прывядзення кантрольных абходаў, не усе інспектуры аказаліся на належнай вышыне.

У чым памылка некаторых інспэктур у гэтым пытанні?

Памылка перш за усе ў неразуменні, а часткова і простым сапраціўленні з боку некаторых інспектур у ажыццяўленні правільнай пастаноўкі і правядзення кантрольных абходаў, парадкам, устаноўленным інструкцыяй і указаннямі Сельска-Гаспадарчага сэктара.

Асноўнае назначэнне кантрольных абходаў—высвятленне якасці падатковага учота, на падставе вынікаў якіх устаноўліваецца коэфіцыент для унясення паправак на сакрыцце і недаучот жывёлы.

Зараз, паўстае пытанне: якая-ж цана кантрольным абходам НГУ, якія праведзены былі да адмены учота, масавай, ці суцэльнай праверкі органамі наркамфіна, у тых выпадках калі поўторныя кантрольныя абходы інспэктурамі НГУ неправедзены?. Вядома, гэтыя кантрольныя абходы, праведзяныя па гарачых следах падатковых камісій, ў пачатку правядзення учота сыгралі валізарнейшую палітычную роль, паколькі яны з'явіліся баромэтрам якасці падатковагл учота, выявіўшыя у цэлым радзе сельсаветаў і раёнаў нездавальняючае правядзенне учота жывёлы. Але, калі пасля іх у некаторых сельсаветах і нават раёнах быў адменен учот, альбо была пастаўлена масавая праверка, тады першапачатковыя кантрольныя абходы НГУ страцілі свае канчатковае назначэнне і сэнс. Інспэктура НГУ павінна была у такіх выпадках правесці паўторныя кантрольныя абходы па новым паселішчам. **Асноўная маса інспэктур гэта і зрабіла.**

Дастаткова прывесці данныя аб колькасці сельсаветаў і раёнаў,.у якіх праведзена праверка органамі наркамфіна пасля кантрольных абходаў НГУ, каб пераканацца ў жыццёвай патрэбнасці правядзення паўторных кантрольных абходаў: райфо праведзена сплашная праверка ў сувязі з адменай учота і па сваей ініцыятыве: а) **па усяму раёну— у 16-ці раёнах па 316 сельсаветах, б) па часці раёнаў—у 42 раёнах па 811 сельсаветах.** Такім чынам першапачатковыя кантрольныя абходы НГУ, у сувязі з амаль што праведзеным пераўчотам па большай частцы сельсаветаў рэспублікі,—адбівалі начальны падатковы учот і яго якасць, і не у якім разе проціанта укрыцця і недаучота жывёлы пасля праведзеных праверак і пераўчота органамі наркамфіна. **Налажэнне коэфіцыента паправак на апошнія данныя учота райфо штучна павялічыла-б пагалоўе жывёлы у раёне.** Адгэтуль і вынікала неабходнасць правядзення новых кантрольных праверак па лініі органаў Наргасучота, якія-б далі супраўдны малюнак якасці падатковага учота з улікам ужо праведзеных па лініі райфо масавых праверак

і пераучота і устанавіць канчатковыя лічбы пагалоў'я ў кожным раёне.

Незразумелі важнасці правядзення паўторных кантрольных абходаў інспэктары: Горацкага р-на—т. **Аніхоўскі** і Старобінскага—т. **Міхасёў**, якія праявілі у гэтым пытанні недапушчальную **палітычную сляпату** і учотна-статыстычную **няпісменасць**. Яны „незразумелі" неабходнасці правядзення паўторных (новых) кантрольных абходаў пасля меўшых месца ў іх раёнах: адмены учота па частцы сельсаветаў, а па частцы сельсаветаў правядзення масавай праверкі органамі наркамфіна. Пры чым, у перагаворах аб неабходнасці правядзення паўторных абходаў, т **Аніхоўскі** пробаваў „абгрунтаваць" непатрэбнасць правядзення паўторных кантрольных абходаў, матывіруючы тым, што у раёне пасля падатковага учота праведзена суцэльная праверка, і **што жывёла улічана на ўсе 100% (якая упэўненасць!?)**, а таму кантрольныя абходы рэч непатрэбная. Да рэчы сказаць, у **Горках** і суцэльнай праверкі не жадалі праводзіць, зноў такі матывіруючы, **што учот праведзен таксама на 100%**, пакуль ім „вежліва" не сказалі, што усе-ж правесці трэба. Наколькі **Горацкія** „прарокі" памыліліся гавораць іх-жа матар'ялы, як суцэльнай праверкі гэтак і праведзеных паўторных кантрольных абходаў (падкрэсліваем што і суцэльная праверка і паўторныя кантрольныя абходы праведзены у Гарэцкім р-не **пад вялікім націскам** адпаведных органаў).

Для прыклада прыводзім вынікі паўторных кантрольных абходаў па **Горацкаму р-ну**, у параўнанні з падатковым учотам плюс давыяўленая жывёла у выніку суцэльнай праверкі кі—у процантах:

| Сектары | Коні | Буйн. рог. жывёла | Свінні | Оўцы |
|---|---|---|---|---|
| Аднаасобнікі | 101,5 | 102,7 | 120,6 | 115,9 |
| Калгаснікі | — | 101,4 | 125,5 | 110,4 |

Прыведзенныя данныя каментарыяў не патрабуюць. Каментарыі калі і патрэбны, то толькі у адносінах самаго Горацкага інспектара НГУ **т. Аніхоўскага**. Каментарыі-ж ў адносінах т. Аніхоўскага такія: ён ужо не адзін год працуе у якасці інспэктара, і як кажуць, прасядзеў штаны на інспетарскім крэсле (а можа быць ня толькі штаны, а і крэсла), а справы, якая яму даручана усё-ж не разумее. Трэба мяркаваць, што у прахаджэнні „курсаў" яму адмоўлена ня будзе.

Наогул, у некаторых раённых інспектароў—„старыкоў" часта наглядаюцца недапушчальныя і незразумелыя для нас паводзіны. Замест таго, каб паказаць іншым інспектарам,

склад якіх у гэтым годзе амаль на палову абнавіўся, прыклад разумення метадолегічных асноў той ці іншай работы і узорнага іх правядзення,—яны у актыўнай ці пасыўнай форме прабуюць аказваць супраціўленне у ажыццяўленні установленага, пры правядзенні работ парадка. Частка-ж такіх інспектароў прачўляе ў працы абсалютную ня толькі учотна-статыстычную няпісменнасць, а нават канцэлярскую. Апошняе можна аднесці да Чэрвеньскага інспектара **т. Бабіцкага**, які таксама „не разумеў" неабходнасці правядзення паўторных кантрольных абходаў і б. інспектара Нараўлянскага р-на **т. Селязнева** (зараз знятага з працы), які прапрацаваў інспектарам **ня менш 10 год**, і усё-ж, таксама, на 11-м годзе інспектарскай працы „не зразумеў" якім чынам скласці раённую зводку па ф. № 3: асобна сельскія паселішчы і асобна гарадскія (не кажучы ужо аб тым што большасць матар'ялаў па чэрвенскаму учоту жывёлы не прадстаўлены і да гэтага часу). Патрэбна было у Нароўлю пасылаць Хойніцкага інспектара **т. Аўчыннікава**, каб скласці зводку ф. № 3 па гарадскіх паселішчах (**якая цяжкасць!?**).

Паказаным інспектарам, да і некаторым іншым, спіс якіх можна было-б прадоўжыць значна больш, у далейшым патрэбна зрабіць для сябе пэўныя і грунтоўныя вывады.

**Усякае сваевольства і халатнасць—несаўмяшчальны з званнем інспэктара народна-гаспадарчага учота.**

Некалькі слоў аб перыядзе, у які праведзен учот жывёлы у рэспубліцы, зборы матэрыялаў і іх распрацоўцы.

Непасрэдны учот у сельсаветах заняў перыяд 16 чэрвеня—10 ліпеня, супроць установленага урадам тэрміна—1 ліпеня. Зацяжка атрымалась па прычынах, якія былі указаны вышэй (нездавальняючая правядзенне падатковага учота і у сувязі з гэтым адмена учота, масавая праверка і г. д.).

Збор матар'ялаў інспэктурамі і іх апрацоўка занялі перыяд 5—20 ліпеня. **Першая раённая зводка была атрымана с-г сектарам КНГУ 11 ліпеня па С-Дарожскаму р-ну—інспектар т. Львовіч.** 1 жніўня у асноўным быў сабран матарял ад усіх раёнаў. Аднакі 14 жнІўнл не атрымана раённая зводка ф. **№ 3 па Нараўлянскаму** р-ну, чым затрымана састаўленне зводкі па рэспубліцы у цэлым.

**Надзвычай важным і актуальным пытаннем для работы усей нашай сістэмы з'яўляецца пытанне культуры і якасці у працы.** Мы з'яўляемся дзяржаўным народна-гаспадарчым учотам—базай для планіравання развіцця народнай

гаспадаркі,—з аднаго боку і кантролем за выкананнем народна-гаспадарчага плана—з другога боку.

**Точнасць, актуальнасць і класавая вытрыманасць нашых учотна-статыстычных данных павінна быць бязукарызненнай!**

На справе, у нас далёка ня ўсе і ня ўсюды спакойна. У гэтым годзе, як ніколі, была аказана дапамога раённымі партыйна-совецкімі организацыямі у правядзенні учота як райфо, так інспэктурам наргасучота. Аднак, нават тады калі ужо галоўнейшая і найбольш цяжкая праца была зроблена (самы учот)—**інспектуры пры афармленні і звядзенні матэрыялаў нарабілі памылак і даслалі КНГУ недобраякасныя і неправераныя матар'ялы: Шклоўская, Бягомельская (нават за сумесным подпісам райфо), Прапойская, Асіпавіцкая, Мсціслаўская, Крупская, Сеннеская** і інш. інспэктуры.

У заключэнне трэба сказаць, што экзамен на чоткае своечасовае і добраякаснае выкананне важнейшых гаспадарча-палітычных задач, даручаных партыяй і урадам—вытрыман не сусімі інспэктрамі.

Пастановай СНК СССР, ад 2-га жніўня 1934 г., на органы народнага гаспадарчага учота ускладзена яшчэ больш складанае і адказнейшая задача—правядзенне студзенскага 1935 г. усесаюзнага перапіса жывёлы.

За час правядзення чэрвенскага учота г. г. інспэктурамі накоплен аграмаднейшы вопыт арганізацыі, правядзення і распрацоўкі матар'ялаў учота. Неабходна не упускаючы часу зараз-жа распачаць падрыхтоўчыя працы з тым, каб новы перапіс сустрэць узброенымі і падрыхтаванымі.

**Дзяржаўнаму плану развіцця жывёлагадоўлі—грунтоўнаю і правільную учотна-статыстычную базу.**

*Арцемкоў Г. Г.*

15 жніўня

---

## Аб кантрольных абходах пры учоце жывёлы.

Самая складаная частка работы—арганізацыя і правядзенне кантрольных абходаў. Кантрольные абходы мелі дваякую мэту: па—першае—выяўленне злосна ўкрытай жывёлы і правільнасць правядзення учота падатковымі камісіямі і па другое--дадзеныя кантрольных абходаў яўляюцца падставай для нанясення паправак на дадзеныя учоту. У умелых руках кантрольные абходы былі той вымярыцельнай прыладай, якая давала магчымасць точна вымераць тэмп, з якім праводзіцца вучот і, што самае важнае, апра-

камісії зацягнуць учот, альбо не правесці шырокай растлумачальнай работы, ці праводзіць учот не так, як гэтага патрабавалі партыя і урад, а бюрократычна-канцэлярскім мэтадам, як гэта літэральна станавілась вядомым інспэктуры на другі дзень, а гэтага дастаткова каб апэрацыйна кіраваць справай.

Глыбока памыліліся тыя інспэктуры, якія рашылі, што контрольныя абходы патрэбна праводзіць толькі пасля таго як будзе скончан учот поўнасцю па раёну. У гэтых раёнах мы маем найбольшы процант укрытай жывёлы і нерэдкія выпадкі перавучота, і прапуска гаспадарак, што з'яўляецца вынікам бюрократычна-канцэлярскіх мэтадаў правядзення учота. Акрамя гэтага, чым большы тэрмін ад сканчэння учота да пачатку кантрольных абходаў, тым меншая точнасць кантрольных абходаў.

Не рэдкія выпадкі неразумення, а магчыма і нежадання разумець аснаўной мэты кантрольных абходаў. Дадзеныя кантрольных абходаў маюць толькі тады вартасць, калі пасля кантрольных абходаў ніякіх змен у дапаможных спісах не рабілася, а там дзе дапаможныя спісы складаліся пасля кантрольнай праверкі, не рабілася змен у падатковых картках калгаснікаў і аднаасобнікаў. Калі-ж дапаможныя спісы ці падатковыя карткі (дзе спісы да кантрольных абходаў нескладаліся) пасля кантрольных абходаў выпраўляліся, то кантрольные абходы не маюць ніякай вартасці. Такія выпадкі намі абнаружаны па Плешчаніцкаму, Чырвонаслабодзкаму і у значнай частцы па Рагачоўскаму раёнам.

С-Г. Сэктар два разы 1/VII і 7/VII даваў паказанне, як паступіць у тых выпадках калі у дапаможныя спісы ці падатковыя карткі уносяцца выпраўлення у выніку перавучота ці сплашной праверкі. Але ня ўсе інспэктары зразумелі усю важнасць кантрольных абходаў і мэтадалегію іх правядзення. Некаторыя інспэктары думаюць, што можна давыяўленую жывёлу уносіць у зводку пасля кантрольных абходаў. Так думаў Магілеўскі інспэктар, так думае і Рагачоўскі калі піша: „Кантрольная праверка Райфа правадзілася пасля сельсавецкага учоту аб'ектаў абкладання, а дадаткі у дапаможныя спісы унесены у ітогавым парадку, не разбівая на гаспадаркі". У гэтым выпадку, не залежна ад таго, калі праводзіліся, кантрольные абходы—да, ці пасля праверкі Рэйфа, аднолькава не маюць ніякай вартасці так як: „пасля складання дапаможных спісаў—піша далей т. Пташкоўскі—дадаткова прыкладаліся зводкі ці акт камісіі". Тут ясна, што давыяўленая жывёла ў налагавыя карткі ня

уносілася, іначай яна бы папала у дапаможныя спісы і ня было-б патрэбна дадаваць акты камісіі.

У заключэнне трэба сказаць, што спазненне—найгоршая хвароба інспэктур. Ад гэтай хваробы трэба лечыць настойліва і смела прымяняць хірургічныя мэтады. Лепш ня мець інспэктара, чым мець такога працаўніка які ня можа скончыць работу у тэрмін. Толькі па прычыне зрыву тэрмінаў ня можа быць скарыстан матар'ял ф. № 11, па Асіпавіцкаму, Ельскаму, Жлобінскаму, Нараўлянскаму, Полацкаму, Петрыкаўскаму і Тураўскаму раёнах, па той-жа прычыне не могуць быць пушчаны у распрацоўку па ф. № 10 спісы кантрольных абходаў ф. № 4, Ельскаму, Полацкаму, Нараўлянскаму і Петрыкаўскаму раёнах. Толькі адно тое, што інспэктуры несваечасова даслалі матар'ялы, работа па складанню іх праведзена у пустую. *Кубан.*

---

## За культуру, точнасць і якасць лічб.

Падводзячы вынікі Чэрвенскаму учоту жывёлы у гэтым годзе, неабходна адзначыць, што як ніколі гэта праца была ўзнята на адпаведную палітычную вышыню.

Пастанова ЦК ВКП(б) ад 16/V-34 г. „Аб статыстыцы жывёлагадоўлі і дыскусіі у Праўдзе" са ўсей астратой паставіла перад органамі Наргасучота неабходнасць рашучай барацьбы за актуальна верную лічбу пагалоўя жывёлы, у кожным раёне. „Важнейшым недахопам сістэмы учота жывёлы з'яўляецца адсутнасць правераных параённых данных з прычыны таго, што ЦУНХУ недастаткова кіравала статыстыкай жывёлагадоўлі у раёне". (з пастановы ЦК ВКП(б)).

Райкомы партыі і раёныя выканаўчыя камітэты, як ніколі прынялі непасрэдны актыўны удзел у правядзенні учота жывёлы. Дастаткова адзначыць, што па лініі Райкомаў і Райвыканкомаў для правядзення учота і кантрольных абходаў было мабілізавана па БССР больш 2500 чалавек, з іх членаў КП(б) каля 1000 чалавек.

У выніку гэтага мы маем, што учот быў скончан у больш кароткія тэрміны, чым мы гэта мелі раней, што якасць учота і кантрольных праверак безумоўна лепшае, а увесь матар'ял учота зможа быць скарыстован для складання дзяржаўнага плана жывёлагадоўлі. Ня гледзячы на гэта, у правядзенні учота мы мелі цэлы шэраг недахопаў, звязаных з неўменнем асобных інспэктур арганізаваць працу па разработке матар'ялаў.

З-за неўважлівых адносін інспэктур да інструкцыйных указанняў С-Г Сэктара матар'ялы прыходзілася па некалькі

разоў адсылаць у раён для выпраўлення. Справа здаецца даволі прастая: інспэктура здолела мабілізаваць раёны актыў, арганізаваць працу па кантрольным праверкам, узварушыць грамадзкасць, застаецца: сабраны матар'ял апрацаваць, скласці зводку, асобна па сельскім паселішчам і асобна па паселішчам гарадзкога тыпу, але гэту надзвычай простую працу некаторыя інспектуры аказаліся нездольнымі выканаць (Крупкі, Карма, Шклоў, Брагін). Кармянскі раён паказаў у агульнай раённай зводке па Орсам лік свіней 30 шт., а ў тым ліку па гор. паселішчу Карма 86 шт.

Шклоў і Брагін, негледзячы на шматразавыя указанні С-Г Сэктару аб неабходнасці уключэння прадпрыемств паслядоўна соцыялістычнага тыпу маючых жывёлу, адпаведна у зводку гарадзкіх альбо сельскіх паселішч, гэта ніяк не зразумелі, прышлося спецыяльна выехаць у гэтыя раёны для выпраўлення зводак.

Пры праверке раённых данных заўважаецца з боку асобных раёнаў вялікая нядбайнасць да цыфр.

Опыт кантрольных праверак павінен быў научыць, што у гэтым годзе павінна быць выяўлена і улічана уся жывёла, але калі справа даходзіць да падліка дык часта заўважаюцца ў некаторых раённых зводках памылкі даходзячыя да соцен і нават тысяч галоў (Гарадок, Орша). Маюцца выпадкі дасылкі зводак неправеранымі і нават непадпісанымі, а Бягомльскі раён даслаў зводку за подпісам загадчыка райфа і інспэктара Наргасучота і усё-ж з вялікай колькасцю арыфмэтычных памылак.

Інспектар Асіпавіцкага раёна т. Шульман будучы загадзя папярэджан па тэлефону, што к нему заедзе за матар'ялам і выпраўленнем зводак працаўнік Кіраўніцтва, разам з статыстыкам уехаў, нікога не заствіўшы у інспэктуры.

Наогул, надворны выгляд Асіпавіцкай інспэктуры можа служыць узорам, як не патрэбна працаваць. На стале валяецца пылам пакрытая пошта, тэрміновыя тэлеграмы, сталы і шафы расчынены, кожны можа зайсці і узяць што патрэбна. Наведвальнікі прыходзяць па розным пытанням, а інспэктара і статыстыка няма.

Гэты знадворны выгляд інспэктуры характарызуе некультурнасць і нядбайнасць у працы і самага інспэктара т. Шульмана.

Урокі Чэрвенскага учота жывёлы павінны быць улічаны інспектурамі. Памылкі маюцца ня толькі па складанню раёнай зводкі (ф. № 3) але і па іншым формам, напрыклад па ф. № 4 кантрольнага абходу двароў. Так Петрыкаўскі раён. Інспэктар т. Рэйнгольд даслаў матар'ял даво-

лі па вялікай колькасці правераных гаспадарак, але невядома ці гэта калгаснікі ці аднаасобнікі, ці тыя і другія разам.

Зараз інспэктурам неабходна увесь матар'ял учота сыстэмацізіраваць, прывесці у парадак так, каб к студзенскаму перапісу мець усе паказчыкі у сельсавецкім і раённым разрэзе.

*Р. Каральчук.*

---

## Рашучы адпор антыдзяржаўным і сабатажніцкім імкненням у кантрольна вымераемых работах ураджая.

Папярэднія вынікі арганізацыі і правядзення работы па вымярэнню ураджаю на карню зернавых і вынікі вымярання жыта азімага па некатарай частцы калгасаў, сведчаць аб тым, што некатарыя райінспэктуры аднесліся да яе зусім безадказна і нават злачынна. Мы маем цэлы шэраг фактаў недапушчальных адносіны з боку райінспэктароў да гэтай важнейшай маючай першаступеннае значэнне работы.

Аб чым гавораць такія факты, калі пад носам у райінспэктара, у дзесяці мінутах хацьбы ад РВК,—зрываецца праца, а райінспэктар аб гэтым нічога не ведае (Бярэзінскій раён т. Пярэдня) і запэўняе усіх, што „усе добра". Безумоўна, не прыходзіцца гаварыць аб калгасах, распалажаных далей чым у 10 мінут хацьбы ад раёну.

Па Бярэзінскаму раёну вымярэнне сарвана.

Другі факт. Петрыкаўскі інспэктар НГУ т. Рэйнгольд перадаў усе справы МТС і адмовіўся зусім удзельнічаць у гэтай працы. Вынікі:—вымярэнне ураджаю на карню жыта азімага—саравіна.

Неадстаюць ад іх і Дзяржынскі інспэктар т. Міронава і Менскі-т. Баўдзей.

Тлумачыцца гэта зусім проста: ні адзін з іх не выехаў у калгас і не пацікавіўся аб становішчы працы на мейсцы.

Менская інспэктура нават прабавала „уцерці ачкі". Калі у яе запыталісь па тэлефону у якім становішчы знаходзіцца праца—адказвае: „усе добра" і толькі пасля таго як ей (інспэктуры) сказалі аб сапраўдным становішчы справы—(да рэчы сказаць с/г сэктар узнаў з боку) —яна вымушана была „сазнацца".

Гэтыя інспэктуры відавочна забылі урокі мінулых гадоў, і не улічылі сыгналаў гэтага году, калі класавы вораг рознымі спосабамі і усімі мерамі працягвае весці сваю шкодніцкаю работу, меняючы толькі формы яе. У гэтых умовах, замест напружанай працы, праверкі на мейсцы

рашучай барацьбы з уселякімі спробамі кулацкага ахвосця праўменшыць ураджай, ашукаць дзяржаву—гэтыя райінспэктары пусцілі важнейшую працу—апрадзяленне ураджайнасці на самацек, страціўшы клясавую пільнасць. Талачынскі інспэктар т. Пэўзнер, добра арганізаваўшы працу, пасля праверкі работы у калгасе „Ясное Утро" піша: „...сябра праўлення калгасу Жураўлеў, замест таго, каб весці барацьбу са стратамі распускае антысавецкія чуткі, што для вымярэння ураджаю бяруцца лепшыя участкі (мэтроўкі), каб больш падатку плаціць, а жанчыны ходзяць і просяць каб хужэйшыя участкі выбіралі для абмеру. Жураўлеў баіцца, што калі правідлова будзе учцен ураджай, дык красці цяжка будзе" і г. д.

Гэта у тысячны раз пацьверждае, што класявы вораг хіцер і ня спіць, а усімі сіламі імкнецца сарваць справу і у некаторых раёнах ужо сарваў.

Некаторымі райіспэктурамі неправераюцца карткі вымярэння, механічна нерапісваюцца і накіроўваюцца у адпаведныя адрасы, з адсутнічаючымі паказчыкамі, альбо маюцца значныя разыходжанні паміж біолегічным ураджаем і суб'ектыўнай ацэнкай, а тлумачэнне не даецца і маюцца выпадкі такога парадку, калі паказваецца, што „жыта знята зялёнае" (?!)—а тлумачэнне адсутнічае. Наогул, трэба адзначыць нездавальняючаю якасць запаўненя карт так вымярэння, а галоўнае адсутнасць тлумачэння нават і у тых выпадках, калі праўленне калгасу да вымярэння і пасля вымярэння ураджайнасць дае значна вышэйшую, чым паказаў ураджай на карню.

У сучасны момант перад органамі Наргасучота стаіць адказнейшая праца:—даць верную лічбу ураджайнасці двух нашых аснаўных культур—лену і бульбы.

Райінспэктары павінны усю увагу зараз сканцантраваць на гэты важнейшы участак работы і дабіцца рашучага пераломy у арганізацыі і праверцы работы на мейсцы.

На—жаль, зараз мы яшчэ не маем дастаткова поўных матар'ялаў характэрызуючых становішча гэтых прац, але па некаторай частке раёнаў, пры асабістым наведванні Нач. КНГУ т. Владзімірскім і мной, высветлены аналегічныя вымярэнню зернавых факты бюрократычна-фармальных адносін да арганізацыі работы па вымярэнню ураджаю ільну і паўтарэння тых-жа самых памылак. Так інспэктар Асвейскага раёна т. Васілеўская абмяжавалась дасылкай інструкцыі у калгасы, вылучыўшы у якасці упаўнаважаных па вымярэнню радавых членаў калгасаў (да рэчы сказаць малапісьменных) тых-жа самых калгасаў (?!), пры гэтым, нават непраінструктавала іх. Зразумела, што вымярэнне

сарвана. А калі дапусціць, што праца была-б праведзена, дык ці можна яе вынікам верыць? Безумоўна, пры такім становішчы справы—нельга.

На—раду з гэтым ускрыты выпадкі злоснага ашуканства дзяржавы у апрадзяленні ураджайнасці, класава-варожжага выступлення кулацкага ахвосця, у метах зрыву працы па вымярэнню (Талачынскі раён), шляхам хуткай звозкі снапоў з поля без папярэджання упаўнаважанага і г. д. Райінспэктары да гэтага часу яшчэ не узяліся за працу па настаяшчаму і не правераюць работы на мейсцы.

У далейшым райінспэктары павінны улічыць усе гэтыя недахопы і скарыстаўшы багаты опыт работ па вымярэнню ураджаю зернавых і лену—зрабіць сабе адпаведныя вынікі і з гонарам выканаць заданне ускладзенае на нас партыей і ўрадам на вымярэнню ураджаю бульбы.

Наш лозунг: За 100% і дабраякаснае выкананне плана кантрольных работ па ураджайнасці.

*Чурко.*

---

## Да перапісу бібліятэк.

Згодна пастановы ЦВК СССР з 1-га па 3-е кастрычніка г. г. праводзіцца перапіс бібліятэк.

Перапісу падлягаюць усе бібліятэкі незалежна ад колькасці маючыхся ў іх кніг і наяўнасці платных работнікаў, г. зн., усе кніжныя фонды, знаходзячыяся у грамадскім карыстанні (б-кі прыватных асоб перапісу не падлягаюць), акрамя бібліятэк Чырвонай арміі і флота. Акрамя гэтага, пашыраецца таксама талкаванне „платны работнік“. Платным работнікам лічыцца не толькі асоба, бібліятэчная работа якой з'яўляецца асноўнай, але і работаючыя па сумяшчальнасці, атрымоўваючыя частковую плату, а таксама асобы, не атрымліваючыя асобна плату за бібліятэчную работу, але у круг абавязкоў якіх уваходзіць таксама і бібл. работа (заг. сельск. дома соц. культуры, культработнік прамарцелі, сакратары і дзелаводы установ і г. д.).

Пры правядзенні перапіса бібліятэкі будуць запаўняць бланк на бібліятэку і бланк на кожнага платнага бібліятэчнага работніка. Перапіс бібліятэк пачатковых школ будзе праводзіцца па спісам.

Такі шырокі аб'ём перапіса абавязвае органы Наргасучота. Наркамасветы і ЦСПСБ, на якіх ускладзена правядзенне перапіса асаблівую ўвагу звярнуць на своечасовае складанне спісаў, у якіх павінна быць уключаны ўсе існуючыя бібліятэкі.

Парадак складання спісаў наступны:

1. Райінспектура Наргасучота складае спіс масавых бібліятэк па матар'ялам РайАНА і Райпрафсовета і накіроўвае копію гэтага спіса у КНГУ.

2. КНГУ правярае дасланыя спісы і паведамляе інспектурам спіс спецыяльных бібліятэк і бібліятэк, падпарадкаваных рэспубліканскім органам непасрэдна.

Работу райінспектураў па падрыхтоўцы да перапісу, нельга абмежваць толькі складаннем спіса па матар'ялам РайАНА і райінспектара.

Якасць атрыманых спісаў з некаторых раёнаў сведчыць аб тым, што спісы павінны быць дасканальна правераны і дапоўнены. Асаблівую ўвагу патрэбна звярнуць на спіс бібліятэк пры саўгасах і калгасах і ўстановах, якіх павінна быць больш, чым раёны паказваюць. Спісы бібліятэк пры калгасах можа быць утачнен у палітадзелах МТС.

Недасылка да гэтага часу спісаў бібліятэк некаторымі райінспектарамі ставіць перапіс пад пагрозу зрыва.

За непрадстаўленне спісаў, намеснікам нач. Кір-ва ўскладзены адміністрацыйныя спагнанні на інспектуру Клімавіцкага, Жлобінскага і Нараўлянскага р-наў. Спісы павінны безадкладна быць дасланы.

Група Учота Кадраў, Культуры і Наукі спаборнічае з Заходняй обласцю і Закаўказкім КНГУ на прадмет лепшага правядзення перапіса і заклікае ўсіх райінспектароў метадамі соцспаборніства забяспечыць падрыхтоўку і правядзенне перапіса бібліятэк.

*Гольдберг.*

---

## Спіс раёнаў, якія не даслалі аб'яднанага спісу бібліятэк па Ф 0-І

1. Асвейскі
2. Жлобінскі
3. Нараўлянскі
4. Полацкі
5. Пухавіцкі
6. Смалявіцкі
7. Чаўскі
8. Шклоўскі

## Спіс раёнаў, якія не даслалі справаздачы рэдакцый газет за II квартал па Ф Г-ІІ

1. Асіпавіцкі
2. Бягомельскі
3. Глускі
4. Дубровенскі
5. Заслаўскі
6. Крупскі
7. Нараўлянскі
8. Пухавіцкі
9. Старобінскі
10. Терахоўскі
11. Чаўскі
12. Чырв. Слабодскі

# Якасць работы Райінспэктур

на 30 ліпеня 1934 г.

| Катэгор. | Раён | Па якім работам прарывы |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| 1 | Гомель | Прарываў няма. |
| 1 | Талачын | Учот працы у будаўніцтве. |
| 1 | Узда | Агратэхніка. |
| 1 | Заслаўль | Учот працы у сел. гасп. |
| 1 | Лоеў | „ „ у прамысл. |
| 1 | Брагін | Абмер ўрадж., бюджэты калгасн. |
| 2 | Бешанковічы | Абмер урадж., агратэхніка, учот жывёлы ф. № 4. |
| 2 | Буда-Кашелева | Учот жывёлы ф. №№ 4 і 11. |
| 2 | Асіповічы | Учот працы у буд., агратэхніка, . учот жывёлы ф. №№ 4 і 11. |
| 2 | Бабруйск | Абмер урадж., агратэхніка, учот жывёлы ф. № 4. |
| 2 | Бялынічы | Учот фондаў зарплаты, агратэхніка, учот жывёлы ф. № 4. |
| 2 | Ветка | Учот працы у сел. гасп., абмер. урадж., учот жывёлы ф. № 11. |
| 2 | Глуск | Учот працы у сел. гасп., агратэхніка. |
| 2 | Лагойск | „ „ у прам., сел. гасп. і буд. |
| 2 | Лельчыцы | Учот жывёлы ф. №№ 4 і 11. |
| 2 | Рэчыца | Учот працы у прам. і сел. гасп. |
| 2 | Сіроціна | „ „ „ учот жывёлы ф. № 11. |
| 2 | Смалявічы | „ „ у буд., учот жывёлы ф. № 3. |
| 2 | Любань | „ „ у сел. гас., учот жывёлы ф. № 11. |
| 2 | Чырвонаполле | „ „ „ агратэхніка. |
| 2 | Карма | „ „ „ абмер урадж., учот жывёлы ф. № 4. |
| 2 | Кастюковічы | „ „ у прам. і буд., агратэхніка. |
| 2 | Жыткавічы | Бюджэты калгасн , агратэхніка, учот жывёлы ф. № 4 |
| 2 | Дрыса | Учот працы у прам. і сел. гасп., учот. жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 2 | Старые-Дарогі | Учот працы у прам., агротэхніка.. |
| 2 | Слуцк | „ „ у сел. гасп., абмер урадж., учот жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 2 | Тураў | Учот працы у буд., учот жывёлы ф. № 3 і 11. |
| 2 | Уваравічы | Учот працы у буд., прам., сел. гасп., учот фондаў зарплаты. |
| 2 | Чырв. Слабада | Учот працы у сел. гасп., учот жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 3 | Ушачы | Учот працы у сел. гасп., агратэхніка, учот жывёлы ф. № 3 і 11. |

| Катэгор. | Раён | Па якім работам прарывы |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| 3 | Барысаў | Учот працы у сел. гасп. і буд., бюджэты рабочых, абмер ураджж., учот жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 3 | Асвея | Учот фондаў зарплаты, учот працы у прам. і сел. гасп., агратэхніка. |
| 3 | Бягомль | Учот фондаў зарплаты, агротэхніка, учот жывёлы ф. № 3 і 4. |
| 3 | Віцебск | Учот фондаў зарплаты, учот працы у сел. гасп. і буд., агротэхніка, учот жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 3 | Гарадок | Учот фондаў зарплаты, учот працы у сел. гасп. агротэхніка, учот жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 3 | Быхаў | Учот працы у сел. гасп. і буд., абмер ураджаю, агротэхніка, учот жывёлы ф. № 3 і 4. |
| 3 | Расоны | Учот фондаў зарплаты, учот працы у прам. і буд., абмер ураджая, агратэхніка, учот жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 3 | Плешчаніцы | Учот фондаў зарплаты, учот працы і прам. і сел. гасп., агротэхніка, учот жывёлы ф. № 11. |
| 3 | Пухавічы | Учот фондаў зарплаты, учот працы у прам., абмер ураджая, агротэхніка, учот жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 3 | Парычы | Учот фондаў зарплаты, учот працы у прам. і сел. гасп., агротэхніка. |
| 3 | Прапойск | Учот працы у сел. гасп., учот жывёлы ф. № 3, 4 і 11. |
| 3 | Орша | Учот фондаў зарплаты, учот працы у прам. і сел. гасп., учот жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 3 | Магілёў | Абмер ураджаю, учот жывёлы ф. № 3, 4 і 11. |
| 3 | Мсціслаў | Учот фондаў зарплаты, учот працы у прам. і сел. гасп., агротэхніка, учот жывёлы ф. № 11. |
| 3 | Мозыр | Учот фондаў зарплаты, учот працы у прам. і сел. гасп., агротэхніка, учот жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 3 | Менск | Учот фондаў зарплаты, учот працы у прам., сел. гасп. і буд., абмер ураджж., агротэхніка, учот жывёлы ф. № 11. |
| 3 | Лепель | Учот працы у прам. сел. гасп. і буд., абмер, ураджая, агратэхніка, учот жывёлы ф. № 4. |
| 3 | Копыль | Учот фондаў зарплаты, учот працы у сел. гасп., абмер ураджая, агротэхніка. |
| 3 | Крупкі | Учот працы у прам. і сел. гасп., агротэхніка, учот жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 3 | Камарына | Учот фондаў зарплаты, агротэхніка, учот жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 3 | Дуброўна | Учот працы у прам. і сел. гасп., бюджэты калг. і рабочых, агротэхніка. |
| 3 | Дзяржынск | Учот фондаў зарплаты, учот працы у прам., абмер ураджж., агротэхніка, учот жывёлы ф. № 4 і 11 |
| 3 | Старобін | Учот працы у прам. і сел. гасп., агротэхніка, учот жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 3 | Сенно | Учот фондаў зарплаты, учот працы у прам., абмер ураджая, агротэхніка. |

| Катэгор. | Раён | Па якім работам прарывы |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| 3 | Хойнікі | Учот фондаў зарплаты, учот працы у прам. і сел. гасп., агротэхніка. |
| 3 | Цераховка | Учот працы у прам. і сел. гасп., агротэхніка, учот жывёлы ф. № 3 і 11. |
| 3 | Чэрыкаў | Учот працы у прам. і сел. гасп., агротэхніка. |
| 3 | Чавусы | Учот фондаў зарплаты, учот працы у прам. і сел. гасп., абмер ураджая, агротэхніка. |
| 3 | Шклоў | Учот працы у сел. гасп. і буд., агротэхніка, учот жывёлы ф. № 3 і 11. |
| 3 | Чэрвень | Учот працы у прам. і буд., учот жывёлы ф. № 4 і 11. |
| 4 | Рогачоў | Прарывы па ўсім асноўным работам. |
| 4 | Петрыкаў | " " " " |
| 4 | Полацк | " " " " |
| 4 | Нароўля | " " " " |
| 4 | Лезна | " " " " |
| 4 | Крычаў | " " " " |
| 4 | Клічаў | " " " " |
| 4 | Клімавічы | " " " " |
| 4 | Жлобін | " " " " |
| 4 | Ельск | " " " " |
| 4 | Бярэзіна | " " " " |
| 4 | Горкі | " " " " |
| 4 | Сураж | " " " " |
| 4 | Чачэрск | " " " " |
| 4 | Чашнікі | " " " " |

## На дапамогу учоту у калгасах.

Задачы пастаўленыя 17 з'ездам ВКП(б) у галіне сельскай гаспадаркі, лозунг правадыра партыі т. Сталіна „зрабіць калгасы бальшавіцкімі, а калгаснікаў заможнымі", высоўвае пытанне учота і справаздачнасці на адно з мейсц, набываючых выключнае гаспадарча-палітычнае значэнне. Правільная пастаноўка калгаснага учоту—магутная зброя умацавання і аховы социялістычнай маёмасці, важнейшы сродак барацьбы з класава-варожымі элементамі і іх пасобнікамі, лодырамі, расхішчальнікамі соцыялістычнай маёмасці і г. д.

Надаючы вялізарнае значэнне справе наладжвання соцыялістычнага учота ў саўгасах і калгасах, асабліва ва ўмовах нашага раёна, па ініцыятыве інспэктуры Наргасучота сумесна з Райпрофсаветам была склікана нарада бухгаль-

тароў, загадчыкаў устаноў і другіх рахунковых работнікаў, дзе на нарадзе установы і арганізацыі прынялі шэфства над калгасамі і абавязаліся неадкладна выехаць у свае падшэфныя калгасы для наладжвання учота:

1) Дэталева праверыць і падвесці падлік працадней і сваечасова занесці у працоўныя кніжкі калгаснікаў;

2) Праверыць ці правільна у вытворчай брыгадзе прыменяліся расцэнкі, ці рабіліся скідкі і надбаўкі, у залежнасці ад якасці работы;

3) Наладжванне правільнага запрыходвання даходнасці к-са і паступлення зерна ў склады, расходы, здача дзяржаве і г. д.

4) Наладзіць фінансавы адчот у калгасах.

5) Падрыхтаваць умовы для пераводу к-саў на двайную сыстэму рахункаводства.

Лельчыцкая Райінспэктура НГУ с свайго боку узяла шэфства над самымі аддаленнымі калгасамі (Глушкевіцкі с/с), куды намі ужо практычна быў зроблен выезд і наладжан учот.

На сённешні дзень, ахоплена шэфствам 27 калгасаў з агульнага ліку у раёне 50 калгасаў.

У ахопленых калгасах вядзецца сыстэматычная праца па наладжванню учота. Намі у сучасны момант праводзіцца праца па ахопу шэфствам усіх 100% калгасаў нашага раёна.

Райінспэктура Лельчыцкага раёну: *Грыцкевіч, Фрыдман.*

**Ад рэдакцыі:** Ініцыатыва Лельчыцкай інспэктуры з'яўляецца узорам адказнасці за справу учота у калгасах. Яна тым больш сваечасова, у сувязі з учотам калгаснага ураджая і падыходзячага размеркавання ураджая у калгасах. Рэдакцыя зварачваецца да ўсіх інспэктур падтрымаць ініцыятыву Лельчыцкай інспэктуры па арганізацыі грамадзкасці і рахунковых работнікаў раёнаў на дапамогу у наладжванні учота ураджая, налічэння працадзён і занясення іх у трудавыя кніжкі калгаснікаў.

---

